# ШТО РОБІЦЦА НА СЬВЕЦЕ

## Рукі прэч, бандыты!

Цёмная хмара зноў навісла над Далёкім Усходам. Банда імпэрыялістычных галаварэзаў, якая зараз арудуе ў Кітаі, жадае як-бы там ня было, а сарваць політыку міру, якую праводзіць на Ўсходзе наш Савецкі Саюз.

Банда прадажных урадоўцаў, якая направа і налева гандлюе сваім сумленьнем і целам, кідае адзін за другім пахабныя, гарэзныя выклікі нашай рабоча-сялянскай дзяржаве, ірве ў шматы раней падпісаныя ўмовы, захапляе чужую маемасьць і ў дадатак яшчэ сьмяецца з падцішка, калі мы кажам: „Рукі прэч, бандыты!“.

Працоўныя масы Савецкага Саюзу ведаюць, хто стаіць на чале гэтай банды пагромшчыкаў. Гэта—Цжан-Цзо-Лін, які называе сябе маршалам за невядома якія посьпехі, прыслужнік ангельскага і японскага капіталу, яры вораг кітайскіх рабочых і сялян.

І гэты вось бандыт сваімі крывавымі рукамі падкладвае міну пад тую мірную працу, якую наш Саюз вядзе ў Кітаі вось ужо хутка 2 гады. Што-ж адбылося?

Адным махам пяра Цжан-Цзо-Лін прадпісаў сваім пагромшчыкам захапіць увесь флёт на рэчцы Сангары—усяго 11 параходаў і каля 100 вялікіх барж.

Усе гэтыя судны зьяўляліся маемасьцю Ўсходня-Кітайскай чыгункі. Гэтая дарога, як вядома, знаходзіцца пад супольным кіраўніцтвам Савецкага Саюзу і Кітаю.

Савецкі ўрад 2 гады таму назад дабраахвотна адмовіўся ад усіх тых прывілей у адносінах да Ўсходня-Кітайскай чыгункі, якія калісьці выгаварыў сабе, пры дапамозе штыхоў, царскі ўрад.

Такая адмова ўвачавідкі паказала кітайскім працоўным масам розьніцу паміж драпежніцкімі імкненьнямі імпэрыялістычных дзяржаў у Кітаі і тою політыкаю братэрскіх адносін народаў, якую вядзе наш Савецкі Саюз. Аднак, Цжан-Цзо-Лін зпадцішку ўжо ня раз замахваўся на законныя правы працоўных СССР.

Успомнім толькі яго сьнежняўскі націск у мінулым годзе на савецкую частку кіраўніцтва дарогі, на профсаюз савецкіх рабочых і служачых дарогі.

Але тое, што Цжан-Цзо-Лін праяўляе зараз, у шмат разоў перавышае ўсе яго мінулыя злачынствы.

Захоплен флёт на рэчцы Сангары, зачынен вучэбны аддзел Усходня-Кітайскай чыгункі, апячатаны ўстановы чыгункі, звальняюцца савецкія служачыя.

Ясна адно, што ўсім гэтым кіруе ангельская і японская буржуазія, якая задавальняе свайго стаўленьніка Цжан-Цзо-Ліна грашыма.

Але гэта толькі дробязь у той агульнай барацьбе, якую ангельскі імпэрыялізм вядзе ўсюды супроць нашай рабоча-сялянскай дзяржавы.

Буржуазія Ангельшчыны хоча натравіць на нас кітайскую чорную сотню для таго, каб, такім чынам, паслабіць нашае супраціўленьне ангельскаму націску ў іншых мясцох.

Міна падложана пад самы фундамант нашай мірнай політыкі.

Але мы, а разам з намі і ўсе працоўныя масы Кітаю заявяць: „Рукі прэч, бандыты!“.

**Ю. Балсунскі.**

## 20-я ўгодкі беларускага пэрыядычнага друку

Рэволюцыя 1905 году ўскалыхнула і абудзіла нацыяльны рух у быўшай Расіі, якая абудзіла нацыяльную думку—думку аб нацыяльным вызваленьні.

Цана асобнага нумэру 5 кап. (10 грошаў)

№ 1. Год I. Вильня, 1 сенцабря 1906 г.

**Наша Доля**

першая белоруская газэта для вёсковаго и местоваго рабочаго народу.

**ВЫХОДЗИЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ рускими и польскими литерами.**

Адрэс редакции и администрации: *Вильня, Виленская вулица 32.*

[illegible]

ў 1906 годзе нацыяльны беларускі рух настолькі пашырыўся, што зьявілася неадкладная патрэба адчыніць пэрыодычнае выданьне, якое аб'яднала-б, выяўляла-б, адбівала-б на сваіх старонках гочасную беларускую нацыяльную ідэю.

У выніку такога патрабаваньня зьявілася газэта „Наша Доля“, першы нумар якой вышаў 1 верасьня 1906 г. па старому стылю.

„Наша Доля“ пачала прамаўляць да беларускага селяніна і рабочага ў іх роднай мове, начала асьвятляць ім шляхі грамадзкага жыцьця, клясавае барацьбы і нацыяльнага вызваленьня.

„Наша Доля“ робіла падзел на папоў, фабрыкантаў, чорнасоценцаў, царскі ўрад—з аднага боку, і „вясковую працавітную беднату“ і „меставога рабочага народу“, з другога боку.

Азначанае і было прычынаю таго, што з усіх вышаўшых шасьці нумароў, за выключэньнем другога, газэта была конфіскавана, а потым і зачынена.

Газэта не стаяла на шляху пролетарскай клясавай барацьбы, яна ня бачыла, што толькі пролетарыят зьяўляецца гегемонам у рэволюцыі 1905-6 году, і толькі ён адзін дапаможа сялянству скінуць паноў і праклятый царызм.

У гэтым была памылка „Нашай Долі“.

Але-ж „Наша Доля“ шчыра бараніла інтарэсы сялянскай беднаты і адыграла вялізарную ролю ў гісторыі нацыяльнага адраджэньня Беларусі, у чым і заключаюцца яе заслугі, дзякуючы чаму мы ня так даўно 14 верасьня г. г. сьвяткавалі 20-ці годзьдзе беларускага пэрыодычнага друку.

МАЛАДЫ АРАТЫ
ОРГАН ЦК ЛКСМБ
ДВУХТЫДНЕВЫ ЧАСОПІСЬ СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ

№ 18 | Верасень 1926 г. | Менск



# За абарону Савецкага Саюзу

*(Да 9-й гадавіны Кастрычнікавае рэволюцыі)*

## Дзевяць год

Мінае ўжо 9-ы год з таго часу, калі ленінградзкі рабочы, вырваўшы ўладу з рук расійскай буржуазіі, з рук соцыял-згоднікаў, кінуўшы па абшарах былой Расійскай Імпэрыі лёзунг—„Уся ўлада Саветам", перадаў яе ў рукі дыктатуры пролетарыяту і бяднейшага сялянства,—саветам рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў.

Гэта было ў кастрычніку 1917 году. Лістапад і сьнежань 1917 году 1918, 1919, 1920 годы—гэта час грамадзянскай вайны, час вялікай рэволюцыі, эпоха ваеннага комунізму, эпоха абароны маладой улады — улады Саветаў ад расійскай буржуазіі і чужаземнага капіталу.

У гэтыя часы рэволюцыя зруйноўвала панскія гнёзды-маёнткі, белагвардзейцы ўзрывалі масты, палілі фабрыкі і заводы. Пах гары, лямант згвалчаных белагвардзейцамі дзяўчат, лямант матак па забітых белагвардзейцамі сынох, зруйнаваньне прамысловасьці і сельскай гаспадаркі,—вось характарыстыка таго часу.



Беларускія тыпы жанчын і краявід (з колекцыі Сербава).

1920 год—год уціхаміраньня грамадзянскай вайны, год замірэньня з Польшчай, год перамогі рабочых і сялян над расійскай белагвардзейшчынай. Надышло зацішша, але 1921 год прынёс з сабою новыя ахвяры, ахвяры голаду на Паваложжы. Уся ўвага ўлады Саветаў была зьвернута на барацьбу з тагачасным лютым ворагам—голадам.

І толькі з 1922 году пачалося мірнае соцыялістычнае будаўніцтва ў Савецкай краіне.

У сучасны момант, робячы падрахункі нашым посьпехам на шляху соцыялістычнага будаўніцтва Саюзу ССР, мы падышлі да канечнага пункту выкарыстаньня ўсіх сродкаў даваеннага пэрыоду як у галіне прамысловасьці, гэтак і ў галіне сельскае гаспадаркі.

„Валавая продукцыя прамысловасьці ўзрасла з 34,7 проц. у 1922-1923 г. да 95 проц. даваеннага ўзроўню ў 1925-26 годзе. Калі мы возьмем валавую продукцыю прамысловасьці, дык мы атрымаем наступныя лічбы: у 1922-23 г.—1 мільярд 949 міл. даваенных рублёў, а ў 1925-26 г.—5.215 міл. рублёў, г. зн. за гэты час наша прамысловасьць узрасла на 274 проц."

„Прамысловасьць павялічыла сваю продукцыю на 64 проц. у 1924-25 г. і павялічвае яе прыкладна на 30-40% у бягучым гаспадарчым годзе. Колькасьць рабочых у нашай буйнай дзяржаўнай прамысловасьці ў 1921-22 г. складала 48 процантаў даваеннай, у 1922-23 г.—56%, 1923-24 г.—62%, у 1924-25 г. — 70,4 проц., у 1925-26 г. маецца на ўвазе 90 проц. даваеннага". Узрасла і сельская гаспадарка. „Калі ў 1922-23 г. валавая продукцыя сельскае гаспадаркі складала 70 проц., дык у 1923-24 г. яна складала 92 проц. даваеннага, у 1924-25 г.—88 проц., і ў бягучым 1925-26 г. пры сярэднім ураджаі, продукцыя досягнула 94 проц. даваеннай". Па БССР мы здолелі ўзьняць нашу прамысловасьць, прыкладна, на 60% у адносінах даваенных разьмераў яе валавое продукцыі. Існуючыя-ж прадпрыемствы дасягнулі амаль 100 проц. свае даваеннае продукцыйнасьці".

„У галіне сельскае гаспадаркі БССР да сучаснага часу маюцца значныя дасягненьні, якія дазваляюць констатаваць, што процэс адбудовы канчаецца. Гэтыя дасягненьні характарызуюцца: пашырэньнем пасяўное плошчы поўнасьцю да разьмераў даваеннага

часу і дасягненьнем толькі ў цяперашнім годзе ўраджайнасьці сярэдняй за 1905—1913 г.г."

У галіне нацыянальнай політыкі мы маем таксама вялікія дасягненьні, дзе нашае савецкае гаспадарчае і культурнае разьвіцьцё і будаўніцтва ідзе пры поўным удзеле працоўных усіх нацый, якія жывуць у СССР, а таксама і ў БССР, пры поўным забесьпячэньні свабоднага разьвіцьця культуры кожнае нацыянальнасьці.

Вось нашыя дасягненьні за дзевяць год.

### Наша міжнароднае становішча

З найвялікшай трывогаю прыглядаецца да нас міжнародная буржуазія, якая пільна вывучае кожны новы этап на шляху нашага разьвіцьця. Яна выдумляе на СССР розныя недарэчнасьці, і гатова заўсёды знайсьці прычыны, каб парваць з намі мірную сувязь і потым напасьці на нас з аружжам.

„Пасьля таго, як на сьвет зьявілася Савецкая краіна, пасьля таго, як старая Расія абярнулася ў Савецкій Саюз,—усеабхватваючага капіталізму ва ўсім сьвеце ня стала. Сьвет раскалоўся на два лягеры: на лягер імпэрыялізму і лягер барацьбы супроць імпэрыялізму. На чале краін капіталізму становяцца дзьве асноўныя краіны—Англія і Амэрыка. На чале нездаволеных, якія змагаюцца на сьмерць з імпэрыялізмам, становіцца Савецкі Саюз" (т. Сталін, на XIV зьезьдзе УсеКП(б).

Забастоўка ангельскіх вуглякопаў, і брацкая дапамога ім з боку рабочых і сялян СССР у іх цяжкім змаганьні, выклікала абурэньне нездавальненьня міжнароднай буржуазіі і ў асаблівасьці ангельскіх консэрватараў, якія, звар'яцеўшы, праводзяць кампанію супроць СССР.

Супроць ангельскіх консэрватараў савецкая кампанія набывае асаблівае значэньне ў зьвязку з пераваротам Пілсудзкага ў Польшчы. Пілсудзкі належыць да ліку найбольш ваяцкі-настроеных супроціў СССР кіраўнікоў польскай буржуазіі, і працоўныя СССР павінны самым уважлівым чынам сачыць за ваеннымі падрыхтоўкамі сучаснага польскага ўраду, фактычна ўзгляўляемым Пілсудзкім.

Той факт, што пераварот Пілсудзкага быў праведзены па ўказцы ангельскага ўраду, і што сучасны польскі ўрад атрымлівае пазыкі ад Англіі, сьведчыць аб тым, што Пілсудзкі зьяўляецца выпаўніцелем паказаньняў ангельскага консэрватыўнага ўраду.

Гэтыя апошнія абставіны патрабуюць ад працоўных СССР асабліва ўважлівага назіраньня за нашымі межамі з Польшчай. У першую чаргу гэтае назіраньне павінна быць больш пільным з боку працоўных БССР, маючы на ўвазе, што мы знаходзімся на мяжы з Польшчаю.

Наш Савецкі Саюз зацікаўлен устанаўленьнем мірных адносін, разьвіцьцём гаспадаркі, паляпшэньнем дабрабыту рабочых і сялян. Мы некалькі разоў рабілі прапановы аб разбраеньні. Замест разбраеньня буржуазныя дзяржавы з кожным годам узбраеньні павялічваюць. Яны склікаюць конфэрэнцыі па разбраеньні, каб толькі ашукаць працоўных і адцягнуць іх увагу ад папярэдняе рэволюцыйнае барацьбы супроць вайны, а на справе ў гэты самы час буржуазія павялічвае армію і флёт, будуе ўсё новыя і новыя тэхнічныя сродкі, павялічвае ваенныя бюджэты.

Амэрыка на ваенныя патрэбы трацiла ў 1914 г. 316.303.000 даляраў, а ў 1925 г.—548.500.000 даляраў (даляр—1 р. 94 кап.)

Англія трацiла на ваенныя патрэбы ў 1914 г.—80 міл. фунтаў стэрлінгаў, а ў 1925-26 г.—да 140 міл. (стэрлінг—каля 10 руб.). Не адстаюць ад Амэрыкі і Англіі і іншыя дзяржавы.

Англія, Францыя, Амэрыка і Італія трацяць на пабудоўлю самалётаў наступнае:

| | 1922-23 г. | 1924-25 г. |
|---|---|---|
| Францыя . . | 147 міл. р. | 305 міл. р. |
| Англія . . . | 150 „ „ | 190 „ „ |
| Італія . . . | 60 „ „ | 180 „ „ |
| Амэрыка . . | 116 „ „ | 132 „ „ |

Усё гэта сьведчыць аб тым, што за размовамі аб міру буржуазія рыхтуецца да вайны.

### За абарону СССР, за абарону сусьветнае рэволюцыі

Капіталістыя яшчэ і дагэтуль ня могуць згадзіцца з існаваньнем рабоча-сялянскай дзяржавы, яны адчуваюць, што Саюз Савецкіх Рэспублік—гэта той чырвоны лягер, ідэямі якога жыве ўсясьветны пролетарыят і бяднейшае сялянства; яны ведаюць, што існаваньне Савецкага Саюзу азначае суровую пагрозу „хто каго", а таму і рыхтуюцца да новай вайны.

Гэта прымушае нас быць напагатове, быць падрыхтаванымі, трымаць Чырвоную армію ў баявой гатоўнасьці.

І вось гэта выклікае неабходнасьць, каб усё пагалоўна жыхарства Савецкага Саюзу ведала пра будучаю вайну, было падрыхтаваным да яе.

Моладзь і Комсамолія павінны ў першую чаргу гэта ведаць і ваенізавацца. Утварэньне вайсковых гурткоў, вывучэньне ў іх ваеннай тэхнікі, вывучэньне карыстаньня аружжам, вывучэньне абароны ад авіяхімічнага нападу ў гуртках Авіяхіму—вось коратка тыя заданьні перад моладзьдзю ў сучасны момант у справе абароны СССР, абароны сусьветнай рэволюцыі.

Наша армія невялікая. Сёньня наша армія—армія абароны соцыялістычнага будаўніцтва СССР. Але ў той момант, калі напад ворагаў зробіцца навочнай сапраўднасьцю, гэтае вывучэньне вайсковай справы моладзьдзю дапаможа ёй стаць у шэрагі абаронцаў рэволюцыі, адукаванымі вайсковай справе загадзя.






*(З цыклю—„Як жыла дарэволюцыйная вёска“)*

Зьмяншаюцца дзянькі. Сонейка нізка плавае ў нябесным абшары, песьцячы разьвітальным цяплом маці-зямлю. Устане з новай хадолы ня так ужо рана, як улетку, убярэцца спачатку ў панурыя хмурынкі-туман, а потым стрэльне раз-другі цёплымі палоскамі і зайграе радасна ў задумным лесе, пажоўклых сенажацях, на зялёнай руні і на ўсім, што толькі ёсьць на зямлі.

—Будзе пагода!—кажа вясковы гаспадар, гледзячы на белавата-сіняе неба, і сьпяшаецца на ток малаціць, веяць зямлі дар.

Асеньні час плыве хутка. Праўда, ночы ўжо доўгія—ня выляжыш на'т на двох баках, але гэтак з старымі, а моладзь і ў асеньнія вечары ўмее забавіцца.

* * *

Як толькі кара прыпадзе да абалоні, застыне жывы сок, што сьвідраваў усё дрэва, у суседнім лесе высякаюцца маладыя елачкі і прыносяцца ў вёску. Паляжыць такая елачка на вуглі, падсохне, а потым—кара вон, і елачка расьпілоўваецца папалам зьверху ўніз. Далей—праца разца, і ў спрытных руках нядоўгая. Нацягнены, дзе трэба, абручыкі, паліта смалой—і забаўка-труба, гатова.

Бывала так, што колькі на сяле хлапцоў, столькі і труб: адны таўсьцей, другія танчэй, бы галасы ў аргане.

Ружовы вечар. У канцы вёскі заклічна загула труба. Адгукнулася ёй недзе другая, трэцяя, чацьвертая, пятая—ня зьлічыць розных зыкаў. Сьпярша трубяць на сваіх панадворках, як-бы выклікаючы супярэчніка на бой. Потым, памалу трубачы сходзяцца ў грамаду, падбіраюць трубы на лад—тады слухай!

—Хлопцы затрубілі, ужо восень...—кажа старая бабуля, якая даўно трымаецца бліжэй печы і ціханька ідзе да вакна, каб наслухацца прывычнай змалку мілай музыкі, прыпамятаць далёкую моладасьць...

Няма чаго і казаць, што ўся моладзь у гэту пару на вуліцы, ня толькі хлапцы, а і дзяўчаты і падросткі. На'т паджылыя людзі стаяць задумна тут-жа, папальваючы люлькі-драпянкі. Кожны трубач стараецца як мага паказаць сваю здольнасьць, асабліва, калі паблізку знаходзіцца сінявокая Марыська, адзін погляд якой ужо нагарада для вясковага мастака...

* * *

З усіх трубачоў нашай вёскі мне заўжды прыпамінаецца асабліва адзін—Аляксей Арлёнак. Гэта быў такі майстар трубіць, меў настолькі моцныя грудзі, што суседні лес дрыжэў і далёкія вёскі слухалі гром яго трубы, як у сябе ў хаце. Ня дзіва, што па ўсёй аколіцы знали нашага Аляксея. Цікавіліся ім не адны толькі простыя людзі, а суседні пан добра ведаў пра Аляксея і вось чаму. Свайго лесу на трубы ў вёсцы ня было і, хоць строгі быў пан і сьцісла абараняў нязьлічнае сваё багацьце, нашай моладзі ўсё-ж такі прыходзілася пазычаць елкі на трубы ў яго лесе. Што-ж датычыць Аляксея, то ён, як мастак, каторы вельмі перабіраў у трубах болей другіх, дакучаў панскаму ельніку. Пан і яго лясьнік (лясьніка пан знайшоў па свайму характару) даўно дабіраліся да Аляксея, але хлапец абладаў вельмі шустрымі нагамі, і лясьнік-„людаед“, як празвалі яго аколічныя сяляне, ніяк ня мог злавіць Аляксея.

Было адно прыкрае здарэньне, калі Аляксею чуць не ўляцела. Але пакуль гутарыць аб гэтым, зьвяртаю ўвагу чытача на тое, што Аляксей паходзіў з дружыннай сям'і і да самых вусоў, як у нас кажуць, пасьвіў набытак. Дзякуючы гэтаму, бяз ніякага выбару ён зьяўляўся „каралём“ над усімі пастухамі вёскі (агульнага пастуха ў нас ня было). Яго слова было законам для ўсіх нас. Сакрэты нашага пастуховага гаспадарства захоўваліся на'т ад бацькоў, хоць Аляксей ня быў самадзяржаўным, а



толькі сваёю справядлівасьцю заслужыў нашу веру ў яго і прыхільнасьць.

Аднак, вярнемся да прыкрага выпадку.

Стаяў ясны дзень канца „бабскага лета“. Сонца, забраўшыся на самы ўзгорак асеньняга неба, ліло на ўсю прыроду ласкавыя ручаі. Павуціньне зацягнула атаву на сенажаці да таго, што мырсы ў кароў адзеліся бы матком. Цішыня вакол была сонная, толькі недзе высока скрыбітаў шуляк. Лес, што з трох бакоў ахопліваў вясковую сенажаць, не варушыў ніводнай галінай. Іншы раз, неспадзёвана, як-бы ня хочучы, падалі на зямлю пачарнеўшыя лапы—лісьцё векавых кляноў і дубоў, але гэта не перашкаджала цішыні. Усё вакол заклікала чалавека забыць і сябе, і працу, і абавязкі, і заснуць надоўга бяз сну...

Наш „кароль“ Аляксей распачаў зьбіўшымся ў кучу сваім малым таварышам нейкую казку, адначасна працуючы разцом над новаю трубою (адна зусім ужо гатовая і вельмі галосная ляжала каля яго на траве). Пра набытак забылі, і ён, пасоўваючыся, куды хацелася, схаваўся ў панскім лесе. Ці

доўга мы марылі, трудна цяпер сказаць, аж неспадзевана нехта моцна загалёкаў побач у лесе. Усе схапіліся на ногі і зірнулі туды, дзе пасьвіўся набытак: няма набытку, толькі засталося адно цялё, якое задрамала на сонцы. Мы—у лес, каб ратаваць стада, якое пан (гэта быў ён) рыхтаваўся гнаць да двара. Разьбегліся ў розныя бакі, адбіраем кароў, а яны задраўшы хвасты, гізуюць па лесе, уцякаючы ад тоўстага сівана-пана. Меншыя пастушкі стараліся трымацца воддаль ад пана, бо можа злавіць і абадраць, а Аляксей, каб адцягнуць ад нас увагу пана, распачаў з ім гутарку. Аб чым яны крычалі, стоячы на краю леса, было не разабраць за рыканьнем адбіўшыхся ад стада кароў. Толькі мы бачым—пан падняў лахі і бяжыць за Аляксеем, махаючы ключкаю, Аляксей кружыць па сенажаці, рагоча і трубіць у трубу. Пан засопся і стаў, стаў і Аляксей. Пан зьняў з галавы капялюш, абцёрся і крычыць Аляксею:

— Ты—злодзей! Трубіш у трубу з майго лесу, пасеш у маім лесе і са мною спрачаешся! (як выявілася потым, Аляксей стараўся вытлумачыць пану, што набытак папаў у лес незнарок).



— Вось прышлю да вас лясьніка—ён табе бакі паламае, каб ты здох разам з тваім быдлам!—закончыў пан. Аляксей быў горды хлапец, ня вытрымаў і крыкнуў пану:

— Здыхай ты з тваім лясьніком—не баюся ні цябе, ні яго!..

Пачуўшы гэта—пан напружыў усе сілы і зноў пусьціўся лавіць Аляксея, але дзе-ж старому дагнаць маладога хлапца! Пан аж запеніўся ад злосьці, бегаючы за нашым правадыром і, убачыўшы, што ня дасьць рады, пусьціў у яго сваёю заморскаю ключкаю. Аляксей схапіў ключку і адбег з ёю далей, сьмяючыся. Не пашанцавала пану: не пабіў Аляксея і ключку страціў.

Тут пан пераканаўся, што сваркаю з Аляксеем нічога ня зробіш і пачаў прасіць, каб ён вярнуў кій, без якога ня можа хадзіць, а Аляксей адказвае:

— Ты ня толькі можаш хадзіць, а нават бегаеш, як чорт!

Пан моцна аблаяўся, патрос у наш бок кулаком і пасунуўся ў лес.

Аляксей хуценька склікаў нас на параду і кажа:

— Ну, хлопцы, як цяпер? Што нам рабіць з гэтаю праклятаю ключкаю? Адны раялі занесьці ключку ў суседняе балота і кінуць у чортава вакно, другія прапанавалі спаліць, абліўшы смалою.

— Не, ня так,—сказаў Аляксей,—потым набярэмся такой бяды, што ўсіх нашых бацькоў у вастрог пасаджаюць. Лепей павесім ключку вунь на тым вілаватым дубе (ён паказаў на старасьвецкі дуб) і калі начальства прыдзе шукаць, скажам, дзе яна.

Усе згадзіліся, што гэтак будзе добра і ад аднэй бяды адкараскаліся.

— Цяпер, хлопцы, гайда згэтуль набытак!—гукнуў Аляксей, а то зараз прыляціць „людаед“—тады вы прапалі, бо мне прыдзецца ўцякаць!

Забегалі перапалоханыя пастушкі і хутка стада апынулася за вярсту адсюль у густых кустох. Каб людаед неспадзевана не напаў на нашую кампанію, выставілі вартаўнікоў і толькі пасьля гэтага разлажылі агонь, сьпяклі на ражнох сланіну і пачалі сілкавацца.

* *

Мяняючы час-ад-часу варту, дачакаліся вечару, які пачаў нячутна лажыцца на зямлю. Цені сталі доўгія—на поўвярсты. Зьбліжаючыся да краю зямлі, сонца павялічылася і шырокім абліччам агледала прыроду, з якою, быццам, яму не хацелася разлучацца. Вада ў суседняй рэчцы блішчэла срэбрам, адбіваючы ў сабе, як у люстры, шырокія захопленыя паводкаю кусты. Залацісты лес яшчэ больш задумаўся, але ня сумна, бо лісьці зіхацелі дарагімі каменьнямі. Усё заклікала да спакою, адпачынку, пасьля доўгага гарачага лета.

Але мы былі далёка неспакойны. Усіх мучыла думка, як праскочыць з набыткам каля панскага лесу, які блізютка падыходзіў да нашай дарогі. Аляксей некалькі раз склікаў нас на параду, каб агульным розумам выдумаць што-колечы. Некаторыя, самыя баязьлівыя, казалі, што набытак найлепей перагнаць цераз раку і кругом мінуць гэтае месца, другія раілі скіравацца на суседнюю вёску. Усе проэкты былі адкінуты, як поначы ганяць набытак за некалькі вёрст на адлеглую вёску, або тапіць яго ў халоднай вадзе.

—Што будзе, тое будзе,—казаў самы малы наш таварыш, сямігадовы Андрэй,—а памойму найлепей гнаць проста дарогаю“.

Усе згадзіліся з гэтым і трохі ўспакоіліся—бяды ўсё роўна ня мінеш, калі яна суджана.

Як падышла пара гнаць набытак дамоў, Аляксей сказаў, што ён пойдзе трохі ўперад, каб у выпадку чаго, прыняць на сябе ўсю злосьць „людаеда“. Палажыўшы на плячо трубу ды стрэльбу, Аляксей шагнуў у бок вёскі, а за ім пацягнуліся мы з стадам. Мы лекацелі, як асіна, пры думцы, што выскачыць з лесу „людаед“, пазьдзірае сьвіткі і каптаны паб'е кіем бакі, а то забярэ яшчэ ўвесь набытак і пажане да двара (такія прыклады бывалі), тады ад бацькоў няпрыемнасьць дый набытку шкода, які некалькі дзён будзе чэзнуць у двары, пакуль выкупяць. Вось і лес. Ня мігаючы сачылі за сваім правадыром, які недалёка ад лесу застанавіўся і скіраваў набытак на замежак каля ракі. Яно і лепей: усё няма „людаеду“ прычыны да набытку прывязацца. Шагае сьпераду стада Аляксей, ня зводзячы вачэй з лесу, пакуль неспадзявана вылез страшны лясьнік і зьбліжаецца да Аляксея.

Мы ўжо так перапалохаліся, што ў нас захапіла дух, а меншыя пастушкі на'т пачалі голасна плакаць.

Аляксей падаўся да самай вады і пасоўваецца ціха ўперад, а на перадзе яго бяжыць „людаед“. Аляксей рашыў, што проста яму не прарвацца, і стралянуў у адзежы ў раку і няхутка пабрыў праз ваду, якая даставала яму па самы пояс.

Гэтым лясьнік быў так зьбіты з столку, што прапусьціў нас з набыткам, ён усё глядзеў, вылупіўшы зьдзіўленыя вочы, на Аляксея. Як ня злы быў „людаед“, а ў раку за хлопцам ня сунуўся. Злаславіўшы наколькі можна голас, ён клікаў Аляксея з вады на бераг, кляўся не чапаць яго, толькі прасіў аддаць трубу і сказаць, дзе панская ключка. Аляксей ведаў, чым пахне аддаць трубу,—„людаед“ падлічыць у лесе ўсе яловыя пянькі, падасьць на суд, прынясе туды, як доказ, трубу—тады плаці.

Урэшце, Аляксей пачаў зьдзеквацца над лясьнікам.

— Панская ключка паскакала за панам, я думаў што ты яе спаткаў!—гукнуў з вады Аляксей.

— Пачакай, прыдзе на цябе ключка, „людаед“,— закончыў хлапец. Пасьля гэтага лясьнік рашыў абавязкова злавіць Аляксея, каб раз на заўсёды спагнаць злосьць. Ён ускочыў у ваду і пабег за хлапцом, думаючы, што ён не паплыве праз халоднае жарало ракі—застановіцца. Бяжыць „людаед“, аж пырскі ляцяць вакол. Аляксей убачыў, што будзе горача і няхутка падаўся да глыбіні, потым трохі застанавіўся, зрыхтаваўся і ўпірыў кіем па вадзе' абліваючы ворага ручаямі вады. Пасьля гэтага шуснуў у глыбіню і паплыў на другі бераг.

Пакуль „людаед“ апамятаўся, Аляксей ужо збліжаўся да ляску, які роўнаю шчоткаю падымаўся ў ганох ад ракі на другім баку. Ён ішоў павольна, высока падняўшы галаву, як чалавек, каторы дасягнуў свайго. Азірнуўшыся на „людаеда“, які ўжо вылез з вады і стаяў на беразе, хлапец застанавіўся, павярнуў змочаную трубу ў бок ворага і гукнуў у яе. Моцныя пераліўы громам раскаціліся ў ціхім паветры халадзеючага вечара, будзячы ваколіцу. З прыбярэжнага чароту шумна паднялася стада дзікіх качак і з карканьнем пераляцела ў суседняе балотца. Стары чорны крумкач зьляцеў з прывычнага седала на касматай елцы і, крумкнуўшы некалькі разоў, пацягнуў у супроцьлеглы лес, час-ад-часу нахіляючы сваю прыгожую галаву ў бок трубача...

Гук трубы пачаў рабіцца цішэй: гэта Аляксей падаўся праз лес да другой балотнай ракі. Як ён перабрыў яе ня відаць было, а нас дагнаў Аляксей за вярсту ад страшнага месца, вышаўшы неспадзявана з аброслага вярбою еза. Мокрая Аляксеява адзежа шурхацела шоўкам і мала-па-малу абцякала. Змрок ночы ціха спушчаўся на вёску, ад яго няслo ялаўцовым дымам і падсмажанымі скваркамі. Сям-там затрубілі ў трубы. Адказна грымела ім гучная труба нашага Аляксея...

**Сымон Кашчына.**



# КАСТРЫЧНІК

**Валеры Маракоў**

Песьняй звонкай
У вачох неба сьнежнага
Усьміхнуўся кастрычнік-юнак.
Аб тых днёх,
Днёх паўстаньня мяцежнага
Не забыцца ніколі нам.
Помню,
Помню ў палёх цёмна-зраненых
Не адзін праклінаў
Горкі лёс,
Калі ў сініх палёх,
Над курганамі
Завывалі гарматы да сьлёз.
Так было...
Завіруха нястрымная,—
Рэкі буйнай крыві,
Мора сьлёз,
Віхрамётных пажараў уздымы,
Але ўсё наш народ гэта зьнёс.
І цяпер
Над сівымі абшарамі
Паланее крывёю наш сьцяг.
Гэта кроў
Узьнялася пажарамі,
Гэта сымбаль вясны і жыцьця.
Не здарма-ж на грудзёх
Неба сьнежнага
Нашых песень агні
Запаліла вясна.
Аб тых днёх,
Днёх паўстаньня мяцежнага
Не забыцца ніколі нам.

# ВЕРШЫ

## Куды вецер вее

Куды вецер вее,
Туды вербы гнуцца...
Гнуцца верхавіньнем,
Ў лузе, пры дарозе
. . . . . . . .
Вочы у завеях,
Плачуць і сьмяюцца...
Белыя бярозы,
Стынуць на марозе.

Выйду апаўночы,
Выйду за дуброву;
Над вадой дуброва,
Вяне, адцьвітае...
І заплачуць бровы,—
Засьмяюцца вочы
Дзе ты, дарагая?!
У сябе спытаю.

Можа адзінока,
З вёдрамі на кладцы
Думае, гадае
Мілая дзяўчына?..
І адкажа сэрца:
Там яна, далёка,
Кужаль激прадае
Увечар, пры лучыне.

І, здаецца, бачу,
Як гарыць лучына,
Як гарыць і гасьне,—
Ціха дагарае...
Колькі сьлёз і плачу,
У вачох дзяўчыны;
У вачох асмуглых,
Цёмна-смутных—
Карых! . . . . .

Куды вецер вее,
Туды вербы гнуцца...
Гнуцца верхавіньнем,
Ў лузе, пры дарозе
. . . . . . . .
Вочы у завеях
Плачуць і сьмяюцца...
Шумныя бярозы
Стынуць на марозе.

## Скажы мне, любая, скажы!..

Скажы мне, любая, скажы!
Нашто таіць ў душы дакоры,
Калі так ясна сьвецяць зоры...
Ня скардзься ім, а мне скажы!..

Чаму вянкі ў тваёй душы
Так рана ў просіні завялі?
Куды нясуць іх жыцьця хвалі?..
Скажы мне, любая, скажы!..



Павал Труз.

## Ой, ня яснага сокала крыльле

Ой, ня яснага сокала
крыльле;
Праімчаліся дні—сонцавеі...
Мае вочы журбу утапілі
У кляновай, пажоўклай лісьцьве!..

Праімчаліся дні—
сонцавеі;
І гаі адцьвілі, адзьвінелі...
Ветры буйныя сум паразьвеялі,
Як туман залаты па вясьне!..

І гаі адцьвілі,
адзьвінелі,
Ціха журацца ў лісьці асеньнім...
Плачуць сосны ў нямым задуменьні,
А пад соснамі ў ветразі цені.

Ціха журацца ў лісьці
асеньнім
Саламяныя, шэрыя вёскі...
Зацьвілі, завіліся ў дасэні
Маіх песень лісты і пялёсткі!..

Саламяныя, шэрыя
вёскі
Ой, ды просіньню восені зьліты...
А ў душы кармазынавы росквіт,
Як і сьцежкі, зарой апавіты!..

Ой, ня яснага сокала
крыльле;
Праімчаліся дні—сонцавеі...
Мае вочы журбу утапілі
У клянова-пунсовай лісьцьве!..

Супроць цячэньня вады,
Зможа толькі жывое паплыць...
*М. Багдановіч.*

* * *

Жыцьцё глыбіны!..
На глыбіні
Ты бачыш цёмны
Свой адбітак,
Зялёнай цінаю
Пакрыты;
Яго нясуць
У бурах дні...
Нясуць...
І крышаць на кускі;
І точаць гніль,
Як хвалі мора...
Цалуюць вобраз
Твой з дакорам;
У ветрах,—
Буйныя пяскі! .
. . . . . . . .
Цалуйце-ж, хвалі,
Дно і гніль;
Крышэце ў бурах
Няжывое!..
Яго разьвеюць
Заўтра дні
Шырока-пеністым
Прыбоем!..

## Апала сінь...

Апала сінь,
Цьвіце,
Па-над паўнінай
Вяргіні цьвет,
Асыпалі даўно
І стынуць ў цюсіні
Асмуглыя рабіны,
Стаяць і журацца.
Увечар,—пад акном
І ў жоўтацьвецені, над ярам
і далінай;

Тоне ў каўшох
Асеньняе віно...
І сыпяць гаі...
І сыплюцца лісты...
Зьвіняць акорды
У сэрпы маладым!..

* * *

Сыплюцца
каплі вады;
І крышталецца
ў возеры сінім...
Звонкай расою крыніц,—
сыплюцца
каплі вады.
Буду ў душы
маладым!..
ў радасьці
сьлёзы астынуць...
Астрамі дні
адцьвітуць,—
Буду ў душы
Маладым..

# Комсамол і т-ва „Прэч Няпісьменнасьць“

„У краіне няпісьменнай пабудаваць комуністычнай грамады нельга“.
Н. ЛЕНІН.

У той час, калі мы рыхтуемся сьвяткаваць дзевятую гадавіну Кастрычнікавае рэволюцыі, патрэбна памятаць, што застаўся толькі адзін год да таго тэрміну, да якога патрэбна, па наказу таварыша Леніна, закончыць працу па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод жыхарства СССР.

Гэта патрэбна памятаць кожнаму рабочаму, кожнаму працоўнаму селяніну, а асабліва, кожнаму комсамольцу-ленінцу.

Калі мы кажам аб савецкім будаўніцтве, калі кажам аб роўнасьці правоў жанчыны, аб пераходзе да новага быту, аб пераходзе да новага віду зямлякарыстаньня, да новае сыстэмы зямляапрацоўкі, аб коопэраваньні насельніцтва, аб выхаваньні маладога пакаленьня ў новым, комуністычным напрамку, ці можна тут абыйсьціся без ліквідацыі няпісьменнасьці, або ці можна абыйсьціся без ліквідацыі няпісьменнасьці ў сувязі з пастановай XIV зьезду партыі аб індустрыялізацыі краіны? Т. Рыкаў казаў: „У краіне няпісьменнай, грубай, не гаворачы ўжо аб краіне з растучаю няпісьменнасьцю, аб дакладным вырашэньні пытаньня індустрыялізацыі, як асновы соцыялізму, ня можа быць ніякае рэчы“.

Савецкая ўлада, трымаючыся наказу Леніна, кожны год на працу па ліквідацыі няпісьменнасьці траціць значныя сродкі, за якія організуюцца лікпункты для няпісьменных, школы малапісьменных, гурткі і г. д.

Але калі прыняць пад увагу, што ў БССР ва ўзросьце ад 16 да 35 год маецца 820.000 асоб няпісьменных або, што ў БССР на кожныя 100 асоб прыпадае 66 асоб няпісьменных, дык стане зразумелым, што з гэтаю працаю дзяржава адна ня справіцца, хоць-бы яна траціла і надзвычайна вялікія сродкі. А траціць надзвычайна вялікія сродкі на справу па ліквідацыі няпісьменнасьці перашкаджае наша беднасьць. Значыць, тут патрэбна дапамога. Такою дапамогаю дзяржаве можа быць аб'яднаньне ўсіх працоўных і сялян у таварыства „Прэч Няпісьменнасьць“.

У РСФСР таварыства „Прэч Няпісьменнасьць“ існуе з 1923 году. У нас-жа на Беларусі такая організацыя зьявілася крыху пазьней—у 1924 г., а як Усебеларуская, з сваім кіруючым асяродкам—толькі ў 1926 г.

Як і ўсякае добраахвотнае організацыі заданьнем т-ва „Прэч Няпісьменнасьць“ зьяўляецца стварэньне грамадзкае думкі, грамадзкае ініцыятывы навокал тых заданьняў, якія яно ставіць у дадзеным выпадку навокал пытаньня ліквідацыі няпісьменнасьці, а разам з гэтым стварэньне, шляхам уцягненьня ў працу т-ва шырокіх гушчаў працоўных, патрэбнага грамадактыву, які-б узяўся за гэтую працу і гэтым самым дапамог комуністычнай партыі і Савецкай уладзе ў найхутчэйшым соцыялістычным будаўніцтве.

Гэта асабліва патрэбна на вёсцы, дзе большасьць насельніцтва няпісьменна і дзе яшчэ няпісьменныя нават лічаць непатрэбным ліквідаваць сваю няпісьменнасьць, кажучы: „Мы і так дажывём свой век, няхай хаця нашых дзяцей вучаць“. Калі-ж і савецкая грамадзкасьць будзе прытрымоўвацца гэтага погляду, то значыць патрэбна новае савецкае будаўніцтва вёскі адцягнуць на доўгі час, бо няпісьменныя ня змогуць прыняць удзел у політычным жыцьці краіны. Комсамол вёскі павінен аб'яднаць у таварыства „Прэч Няпісьменнасьць“ усю вясковую моладзь, павінен даць кадр актыўных працаўнікоў для працы па організацыі ячэек т-ва „ПН“ для непасрэднай працы на лікпунктах. Бо толькі з удзелам комсамолу ідэі т-ва „Прэч Няпісьменнасьць“ можна прышчапіць шырокім гушчам вясковай моладзі і ўсяго вясковага жыхарства.

**М. Жаўрыд.**



На кірмашы.

# НАША

## Дзевяты вал

Заграй, Янка,
На тальянцы,
Грай Інтэрнацыянал.
Гэй, дзяўчата,
Зараз сьвята
Вось ідзе дзевяты вал!
Гэй, сястрычкі,
Наш Кастрычнік
Засьвяткуе ўвесь народ,
Усякі знае
Наступае
Рэволюцыі новы год.
Ой, Пятрусік,
У Беларусі
Будаўніцтва новы лад.
Вецер грае
Падымае
Вышэй хат чырвоны сьцяг.
Пабудуем
Мы заводы,
Што нам хлопцам маладым?
Пан убачыць —
Горка плачыць,
Выядае вочы дым.
Вось і восень.
Вецер носіць
Над палямі крык варон.
Люд фабрычны,
Наш Кастрычнік—
Засьвяткуем пад гармонь!
Ой, ня дарам
Пан закаркаў
За межамі ў нары.
Пролетары,
Пролетаркі
К нам бягуць з усіх краін!
Слухай, браце,
Зараз сьвята,
Вось ідзе дзевяты вал.
Сыпле Янка
На тальянцы
Наш Інтэрнацыянал!

**Грышка Ладны.**

## „Гурток Заказінскай Культуры"—у комсамол.

*(Вёска Заказінец, Смалявіцкі раён Меншчына).*

Да сяго часу ў нас працавалі 2 гурткі: сельська-гаспадарчы і драматычны. Моладзь актыўна прымала ў ім удзел. Часта скліkaліся сходкі, якія канчаліся чыткаю ці заняткамі па політыцы. Але гэтага было мала. Моладзь імкнулася, каб усю гэту працу аб'яднаць у „Гурток Заказінскай Культуры". На фэкце яно так і было. Было абрана бюро з аўторытэтных і актыўных хлапцоў вёскі, якое і кіравала ўсёю працаю гуртка. Але праца не задавальняла сяброў. Хлопцы шукалі, а ня ведалі чаго. І, нарэшце, знайшлі.

Недалёка ад нашай вёскі райком організаваў комсамольскую ячэйку. Комсамольцы растлумачылі нашым хлапцом, што гэта ёсьць „гурток культуры", але ня толькі заказінскай, але ўсяе моладзі. Тады ўсе нашы хлопцы падалі заяву ў ячэйку, і цяпер ужо зацьверджаны райкомам.

Цяпер і старыя зьмянілі погляд на комсамол: „Калі нашы ўсе хлопцы пашлі ў яго, дык, значыць, комсамол нешта добрае"—казалі сяляне.

Вось толькі ад самагонкі хлопцы не адвыклі, што надта дрэнна, і чаго не павінна быць у шэрагах комсамольскай ячэйкі. **Янка Кім.**


За калаўроткам.

## Клюб павінен быць адрамантаваны

*(Путчынская ячэйка ЛКСМБ, Койданаўскага раёну, Меншчына).*

Да леташняга году Путчынская ячэйка ня мела свайго клюбу, затым яна і казала, што няма ёй дзе павесьці культасьветную працу. І ячэйка ўсе сілы свае клала на тое, каб дзе-небудзь знайсьці памяшканьне пад клюб. Памяшканьне знайшлі пры Гантапольскай школе. Закіпела праца. Разам з беспартыйнай моладзьдзю вёскі Валоўнікі, нашы комсамольцы ўзяліся ля памяшканьня, каб прывесьці яго ў належны выгляд. Нарэзалі дошак, зрабілі сцэну, папраўлі падлогу, зрабілі зэдлікаў, навешалі плякатаў, і клюб быў гатоў. Усе былі рады клюбу. Організаваўся драмгуртok. Пачалі ставіць спэктаклі, і на здабытыя грошы пачалі выпісваць газэты, часопісі. Але з надыходам вясны і лета

**Іл. Барашка**

# Красуня і васількі

*(Народнае паданьне)*

Мне бацькаўшчынай цэлы сьвет,
Ад родных ніў я адвярнуўся...
Адно... нязбыў яшчэ ўсіх бед:
Мне сьняцца сны аб Беларусі.
(Янка Купала. О так.
Я пролетар...).

І апавядалі мне людзі блізкія дзівосныя, таемныя паданьні. І слова за словам урэзвалася ў глыбіню маіх пачуцьцяў. І шмат з іх у памяці маёй заставалася. І падрастаючы на чужыне, пагубляў я іх на шляху жыцьця свайго... І вырас я... І згубленае я занава адшуківаць пачаў... Хаця-бы вось сёньня ўсплыло на памяць дзівоснае паданьне.

І кажа тое паданьне:

— Плывуць гады, а некалі жыла на белым сьвеце дзяўчына. І найпрыгожшай на сьвеце яна лічылася, нельга было падобнай ёй адшукаць анідзе. І жыла яна вольнай, бы сокал у блакітнай далечы. І за хараство кахала яе ўсё: і лес шапатаў ёй вольныя, суворыя казкі, і вецер-веснавей ёй калыханку заўжды пеў, калі яна спаць клалася, і зяляненькая траўка да долу схілялася, калі яе белыя ногі да яе падыходзілі, і рэчкі ціхімі хвалямі сваймі ёй косы-русы песьцілі, калі купацца часам стане па-над вечар, адпачынаць пачне ад працы ў летні жніўны дзень, і жаўранкі сваймі песьнямі ў высь заклікалі, калі задуменная яна часам была, і сёстры і браты кахалі за працу шчырую яе, яе прыгожасьць, хараство... І кахала яна ўсіх каханьнем палкім. І найбольшымі яе кветкамі былі васількі...

* * *

І ўгледзілі гэта дзявочае хараство два князевічы. Адзін адтуль, дзе сонца ў вечар ціхі хаваецца за стромкім чорным борам... Другі адтуль, дзе сонца раніцай сваймі праменьнямі плюскоча... І кожнаму з князевічаў хацелася ўзяць яе ў найміткі свае, а там у палоне... купіць яе прыгожасьць золатам, ядвабам...

* * *

І стаптана была ўся траванька той зямліцы, дзе жыла гэтая Краса—прайшлі палкі першага князевіча, шукаючы яе, дзяўчыну. І вырубіла цёмны бор, стаптала збоіжа войска другога князевіча, шукаючы Красуню... І дрыжэла зямліца са злосьці на князевічаў, што шукалі любую Красуню... А на зямліцы-матухне енк і лямант братоў і сясьцёр Красуні ў

# ЖЫЦЬЦЁ

ўся праца заняпала і клюб прышоў у разбураны выгляд.

Ходзяць па ім куры, а то і сьвіньні заглядаюць, лаўкі паламаны, плякаты паадрываны.

Няўжо-ж Путчынская ячэйка і надалей будзе глядзець безгаспадарчым вокам на будыніну?

Юнселькор **Шыпшына.**

## Як мы сьвяткавалі 12 МЮД

Вечар. Нардом імя Леніна повен народу. Сёньня 5-га верасьня—сьвята камсамолу, сьвята ўсяе працоўнай моладзі. Але прышлі сьвяткаваць і старыя. Урачыстая частка... Льлюцца словы прамоўцы: маладыя, гарачыя, бадзёрыя.

...„Мы сьвяткуем вольна, але там, у панскай Польшчы і другіх імпэрыялістычных кр\лінах, пральлецца кроў не аднаго маладога пролетара. На месца арыштаваных і забітых таварышоў стануць дзесяткі, сотні, тысячы маладых барацьбітоў за справу працоўнага люду. Сваім інтэрнацыянальным пятачком мы дапаможам замежным братом у іх справе“.

Выступаючы таварыш ад імя далрызыўнікоў 1904 г. сказаў, што моладзь, якая ў гэтым годзе ідзе ў армію, будзе бараніць ад буржуазіі заваёвы Кастрычніка. І ў прынятай рэзолюцыі гаворыцца аб тым, што супольнымі сіламі мы зьнішчым прагніўшы строй буржуазіі. Пасьля ўрачыстага пасяджэньня была пастаўлена п'еса з жыцьця вёскі. Вечар закончыўся дэклямацыяй і скокамі. Здаволенай разыходзілася па хатах моладзь.

**Юрка.**



Як ня трэба будавацца. (З колекцыі Сербава).

## Ячэйка на добрым шляху

*(Блускі сельсавет, Пухавіцкі раён, Меншчына).*

Пры нашым сельсавеце маецца ячэйка ЛКСМБ. Налічвала яна да сяго часу 22 сяброў, але некаторыя з іх лічыліся толькі на паперы. Дзякуючы працаздольнасьці бюро ячэйкі, праца стала на добры шлях. Вынікі наступныя: выкінулі з ячэйкі 7 асоб, якія перашкаджалі ў працы другім, наладжан выпуск насьценгазэты „Чырвоная Вёска“, таксама наладжана праца ў гуртках—селькораўскім, політычным, харавым, драматычным і вайсковым.

Спадзяёмся, што надалей Блуская ячэйка яшчэ шырэй разгорне сваю працу.

Селькор **А. Сьнежка.**

## Прыпеўкі

### Ураджайныя

Каля пуні над страхою
Гніе мокне акалот,
Жыта ў полі ўрадзіла
Дае добры ўмалот.

Урадзілі васілёчкі
Там на полі ў аўсе,
Кораньплоды саджаць сталі,
Дзе ня глянь, ужо ўсе!

Дажджы дробныя праходзяць,
Як-бы цераз сіта,—
Ачышчаюць на насеньне
Комсамольцы жыта!

Выйду я на родна поле
Гляну, гляну на гару,—
Я сяголетні падатак
Аддам скора ў пару!

Між зялёнаю капустай
Расьце жоўты агурок,—
Мы згуртуем сабе ў вёсцы
Гаспадарчы сельгурток.

За гародам там на полі
Ой, вялікі лён парос,—
Агроном казаў нам сеяць
Лубін, выку і авёс!

Восень, восень падыходзіць
Сумна сэрданьку майму,—
Хутка сьвята „ўраджаю“,
Падрыхтуймася к яму!

**З. Бульбянік.**

высь уздымаўся:—Не палоньце нашай Красуні з васількамі... Не забірайце яе ад нас...—А князевічы лютыя, суворыя. Усё жадалі ў найміткі ўзяць яе... Кожны сабе... Усё шукалі...

І далей кажа паданьне:

— Але дарма. Зямліца кахала Красуню—таму расчынілася адна гара высокая на Наддзьвіньню, і схвала ў сябе дзяўчыну—Красуню. З васількоў пабудавала Красуня ў гары той харомы, сьветлячкі ліхтарамі сталіся... А яна ў вопратцы белай гаспадарыла ў харомах з васількоў... І ўсё слухалася яе, бо аддана кахала...

* * *

А над братамі ды сёстрамі Красуні сьпярша стаў панам адзін князевіч. Палкам сваім, што ў паход хадзілі разам з ім адшуківаць Красуню, аддаў братоў, сястрыц Красуні ў няволю... Плылі гады... А потым і другі стаў уладаром Красуніных братоў, сястрыц, зямліцы...

Жылося, ой, як цяжка на зямлі... Адна была ўцеха дзеля братоў, сястрыц Красуні: адшуківаць у Купальскі дзень загублены свой лёс—чырвоненькую кветку-папарць... Бо ведалі чамусьці, што прыдзе час—яны і знойдуць...

* * *

— А Красуня ў Купальскі дзень па-над вечар выходзіць з зямліцы з расою сьцюдзёнаю, сыпане найлюбшых кветак сваіх—васількоў—па зямліцы...

І кажа паданьне:

— І не знаходзілі браты і сёстры Красуні свайго лёсу—папараць-кветкі, бо ня ведалі, што папараць-кветка, гэта найлюбшая кветка Красуні—васілёк... І не знаходзілі папараць-кветкі яны таму, бо знайсьці яе жадалі, шукаючы і чужынцы-паны...

* * *

— А пачуе ад зямліцы Красуня пра мор людзкі, пра шчасьце для братоў, сястрыц сваіх, хутчэй у званы званіць васільком загадвае, склікае веча...

І яшчэ кажа паданьне тое:

— І прышоў час, калі браты і сёстры Красуні зразумелі, што папараць-кветка, гэта найлюбшая кветка Красуні—васілёк... І знайшлі яго... І ўчулі яны гул званоў Красуні... І расчынілася тады горка на Наддзьвіньню і вярнулася яна на зямлю працаваць побач з братамі ды сёстрамі сваймі, сваім няўмірučым хараством аздабляць іхнае жыцьцё.

---

Народ, вялікі ты мастак!



# СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

## Як выбіраць і захоўваць бульбу

Выбіраць з поля бульбу пачынаюць тады, калі бацьвіньне пачынае вянуць і адміраць. Дні для гэтай мэты трэба выбіраць сонечныя, каб мець магчымасьць выкапаную бульбу прасушыць на полі.

Праўда, гэта не заўсёды ўдаецца. К гэтаму часу часта пачынаюцца васеньнія дажджы. У такім выпадку выбраную бульбу прасушваюць дзе-небудзь у сядзібе, пад страхою. Мокрую бульбу ніколі нельга сыпаць у капец ці ў склеп. Ад вільгаці яна лёгка паддаецца гніеньню.

Прасушаную бульбу сартуюць ці, інакш кажучы, адбіраюць. Усе папсаваныя і хворыя бульбіны адбіраюцца. На зіму кладуцца толькі моцныя, чыстыя, здаровыя бульбіны. Калі ў бульбу, якая захоўваецца на зіму, пападуць хворыя бульбіны, дык яны заражаюць і здаровыя, чым наносяць вялікую страту гаспадарцы.

Захоўваць на зіму бульбу можна ў скляпох, ямах і капцох. Лепшым спосабам лічыцца захоўваньне ў скляпох, затым што тут заўсёды можна наглядаць за бульбаю. У выпадку псуты яе, адразу можна прыняць належныя меры.

У склепе не павінна быць болей 1-2 градусаў цяплыні. Калі будзе цяплей, дык бульба можа лёгка прарасьці, а такая бульба хутка псуецца. Калі склеп халодны, дык яго трэба ўцяпліць.

У цёплы час склеп неабходна праветрываць. Для гэтай мэты зьверху праз столь робіцца выцяжная труба з накрыўкаю. У час цяплыні накрыўка адчыняецца, у холад—зачыняецца.

Бульба ў склепе насыпаецца роўным пластом таўшчынёю ў $1^{1}/_{2}$-2 аршыны. Час-ад-часу бульбу неабходна праглядаць. Калі будзе заўважана, што бульбіны пачынаюць загнівацца, дык неабходна адразу-ж іх перабраць і ўсе гнілыя бульбіны выкінуць.

Захоўваць бульбу можна таксама ў ямах альбо кучах. Калі глеба лёгкая, падглебавая вада знаходзіцца глыбока, дык для захоўваньня бульбы рыюць ямы. Глыбіня ямы 1-$1^{1}/_{2}$ аршыны, шырыня—2 арш., даўжыня—у залежнасьці ад колькасьці бульбы.

Пры захоўваньні пад зямлёю, бульба насыпаецца капцамі ў колькасьці да 500—1000 пуд. у кожным капцы. Шырыня капца—$2^{1}/_{2}$ арш., вышыня—$1\frac{1}{2}$ арш., даўжыня залежыць ад колькасьці бульбы. Для таго, каб лягчэй было насыпаць у кучу бульбу, па краёх яе кладуць жэрдкі ці бярвеньні. Як толькі куча гатова, бярвеньні асьцярожна забіраюць.

Вялікую ўвагу трэба зьвярнуць на пабудову пакрышак як ям, так і куч. Яны будуюцца так: спачатку бульба прыкрываецца саломаю таўшчынёю ў 3-4 вяршкі, на салому насыпаецца зямля такой-жа прыблізна таўшчыні.

Зьверху, на самы грэбень, зямля не насыпаецца, а на салому кладзецца дошка, каб захаваць бульбу ад дажджу. Калі надыходзяць халады, дык дошка здымаецца, і грэбень засыпаецца зямлёю.

Па меры павялічэньня маразоў пласт зямлі на ямах і кучах павялічваюць, каб лепей захаваць бульбу ад замярзаньня.

Навакол ямы і кучы выкопваецца канава, каб не падышла да бульбы дажджавая альбо сьнегавая вада. Бульба пры захоўваньні выдзяляе заўсёды іспарыну. Калі яе застаўляць, дык бульба пры захоўваньні ў кучах і ямах пачынае загнівацца. Для таго, каб гэта ня было, робіцца вэнтыляцыя (праветрываньне).

Робіцца гэта так. Калі бульба насыпана ў яму на ўзроўні з зямлёю, дык ўпоперак ямы робіцца перакладзіны, на якія кладуць зьбітыя, накшталт павернутага карыта, дошкі. Дошкі ідуць на ўсю даўжыню ямы і некалькі выдаюцца на двор.




Захаваньне бульбы ў капцох.

Калі бульба захоўваецца ў кучах, дык для пабудовы вэнтыляцыі па даўжыні грэбеню кучы, пакрытаю саломай, кладзецца бервяно, якое закрываецца саломаю, і пасьля зямлёю. Калі зямля асядзе, бервяно вынімаюць—утвараецца труба, па каторай будзе выходзіць іспарына. У часе маразоў трубы для праветрываньня бульбы трэба зачыняць.

Калі земляная пакрышка ям і куч да зімы патрэскаецца, дык шчыліны трэба засыпаць зямлёю, каб у сярэдзіну не праходзіў холад.

Увесну, з надыходам цяплыні, калі зямля адмерзьне і перасохне, земляная пакрышка скідаецца, застаецца адна салома. Бульбу праглядаюць. Калі будзе знойдзена гніль альбо вільгаць на бульбінах, альбо бульбіны прарасьлі, трэба адразу бульбу перабраць. Зноў засыпаюцца ў яму (ужо другую) толькі добрыя, сухія, здаровыя бульбіны.

**Аграном С. Сілін.**

# Хочаш мець добры сад—пачынай з восені

Няма тае вёскі, каб ня мела хоць якога садзіку, і няма таго селяніна, каб не жадаў яго мець. Толькі ўся бяда ў тым, што ня кожны можа купіць шчэпы, каб завесьці свой сад. А дзеля гэтага, каб мець свой сад і ня мець вялікае грашовае страты на куплю, трэба абзавесьціся сваёю школаю, а гэта зрабіць ня так цяжка. Увосень трэбаназьбіраць зернят і адразу або пасеяць у вагародзе і накрыць гальлём, або трэба гэтак звана „стратыфікаваць". Дзеля гэтага бяром дзеравяную скрынку з дзіркаю на дне, закрываем чарапком. Гэта робіцца для таго, каб ня высыпаўся пясок, а сьцякала вада, і на дно скрынкі сыплюцца вугольлі, а наверх вугольляў насыпаецца пласт жоўтага перамытага пяску, на пласт пяску сыплецца пласт зернят, а пасьля зноў пяску і гэтак аж да верху скрынкі. Скрынка закрываецца і ставіцца ў склеп або закопваецца ў зямлю.

Вясною, як зямля растане, насеньне дастаецца з скрынкі і сеецца на загоне ў радкі, а калі вясна сухая, насеньне трэба паліваць. Як дзічкі ўзыйдуць, вырастуць і будуць мець чатыры лісткі, тады іх трэба вымаць з зямлі, палову карэньняў адрэзваць і перасаджваць на другі загон і ўжо значна радзей. Карэньні адрэзваюцца для таго, каб дзічкі не ўкараніліся ў зямлю. Гэты прыём завецца „пікіроўка". Першыя дні, покуль далікатныя карэньчыкі расьлін не ўзяліся добра за зямлю, яны маюць патрэбу ў вадзе, бо без вады яны яшчэ ня змогуць самі здабыць харчу з зямлі. Дзеля гэтага трэба першыя тры дні пасьля пікіроўкі паліваць вадою. Паліваць лепш усяго вечарам, бо вада ня так хутка будзе выходзіць у паветра і за ноч добра напоіць расьліну. У працягу лета мы не павінны запушчаць пасеяныя дзічкі. Іх трэба палоць ад дзікіх траў.

Як удасца, дзічкі праз лета вырастуць і іх ужо можна перасаджваць у гэтак званую школку.

Месца пад школку выбіраецца адчыненае і сьветлае. Зямля ў школцы мяняецца: верхні слой сыплецца падыспад, а падысподні—наверх. Падрыхтаваўшы глебу, дзічкі ў школку перасаджваюцца каліва ад каліва на поўаршына. Калі дзічкі пасаджаны ўвосень, то на другі год у палове ліпня (па старому стылю) можна прышчэпваць: дзеля гэтага бярэм зраз ад яблыні добрага гатунку, адрэзваем ад яго вочка з кавалачкам дрэва, як паказана на малюнку № 2. Толькі пры прышчэпцы з дзічкаю неабходна выняць з вочка кусочак дзерава, не папсаваўшы тоненькіх жылак, як садаводы кажуць—„душы", бо бяз гэтае душы вочка ня прымецца да дзічкі, а заставіць толькі кару з жылкамі. Падрыхтаваўшы вочка, бярэм дзічку і нявысока ад зямлі надразаем кару па форме, якая паказана на малюнку № 1, адхіляем кару ў бакі і вочка ўстаўляем у гэты разрэз, як паказана на малюнку № 3, пасьля завязваем рагожаю. Пры другіх формах шчэпкі патрэбна мазь, якая робіцца зусім проста: бярэцца адна частка воску і поўчасткі сьвінога несалонага сала, дзьве часткі яловае смалы, або частку каніфолі, і спачатку растопліваецца, калі дастанецце каніфолі, то каніфоль, а то смала, а посьле дабаўляецца сала і воск і разам пераварваецца.

Праз два тыдні, калі лісток ад прышчэпленага вочка адваліцца, значыць яно прынялося, а калі не прынялося, то, разьвязаўшы мачалку, яно лёгка выцягаецца разам з хвосьцікам вочка. Вясною, калі вочка зялёнае, значыць яно будзе расьці; мы тады зрэзваем дзічку, пакідаем над вочкам сучок, да якога прывязваем вырасшы з вочка хрясток. Гэта першы год прышчэпкі.




На другі год вясною сучок гладка зрэзваем, замазваем тою самаю мазьзю, што і пры прышчэпцы, а самую шчэпку зрэзваем на адну трэць, пакідаючы шэсьць вочак, а пад апошнім вочкам ізноў сучок. (Гэта так званая каронка-шчэп). Калі шчэпы добра растуць, то тыя, якім мы вясною рабілі каронку, увосень можна ўжо садзіць у сад.

Апроч гэтага спосабу прывіўкі ёсьць яшчэ два спосабы зусім простыя і не патрабуючыя ніякага марудзтва. Першы спосаб—гэта прывіўка пад кару. Робіцца гэта зусім проста: бярэцца зраз з добрае яблыні або ігрушы, абавязкова з двумя вочкамі і робіцца надрэз, як паказана на малюнку № 4. Пасьля зрэзваем роўна дзічку, з боку робім разрэз кары даўжынёю зрэзу зразіка, як ён завецца „чэранок"; затым чэранок сваім зрэзам устаўляецца за кару дзічкі. Гэта можна бачыць на малюнку № 5-6. Устаноўлены чэранок замазваецца мазьзю і завязваецца рагожаю.

Другі спосаб таксама зусім просты. Бярэцца дзічка, зрэзваецца, як паказана на малюнку № 7, а таксама зрэзваецца гэткаю формаю зраз і, нарэшце, разам складаецца, замазваецца мазьзю і завязваецца рагожаю.

**З. Падлужны.**

# Газы і меры барацьбы з імі

Хэмічныя вешчаствы, аказваючыя атручваючы ўплыў на організм чалавека і жывёлы, носяць назву *атручваючыя вешчаствы* ці скарочана А. В.

Па сваім надворным выглядзе А. В. могуць быць: цьвёрдымі, жыдкімі і ў выглядзе газу (туману і дыму), прычым адно і тое вешчаство, у залежнасьці ад тэмпэратуры і даўленьня, можа зьмяняць свой надворны выгляд, гэта значыць можа быць і цьвёрдым, і жыдкім, і газам.

Організм чалавека ці жывёлы, галоўным чынам, атручваецца праз дыханьне,—А. В. разам з паветрам пападаюць у організм. Некаторыя з атручваючых вяшчэств аказваюць уплыў на сьлізістую абалонку вачэй, выклікаючы сьлёзацёкі ці струпы на целе.

Атручваньне залежыць ад колькасьці вешчаства ў паветры, акружаючым чалавека, а таксама і ад працяжнасьці знаходжаньня ў атручаным паветры. Лёгкае атручваньне праходзіць амаль што без сьлядоў, а цяжкае— выклікае нямінучую сьмерць.

А. В. падзяляюцца на тры катэгорыі: па фізыолёгічнаму дзеяньню, фізычным асаблівасьцям і баявым. Па дзейнасьці на організм чалавека ці жывёлы падзяляюцца на пяць груп: 1) удушаючыя, 2) ядавітыя, 3) сьлёзатачывыя, 4) выклікаючыя струпы на целе і 5) выклікаючыя чыханьне.

**Удушаючыя**

*Хлёр*—газ у два з пал. разы цяжэй паветра. Надта ядавіты. Мае пах хлёрнай вапны. Пры нормальнай тэмпэратуры і даўленьні—газ жоўта-зялёнага колеру. Галоўным чынам дзейнічае на сьлізістыя абалонкі носа, горла, выклікае цяжкі кашаль і ацёк лёгкіх, перш-на-перш ацёк сьлізістай абалонкі дыхацельных органаў, і паступова пераходзіць на лёгкія. Зьяўляецца аддышка, слабасьць сэрца, у некаторых выпадках зьніжаецца тэмпэратура цела, выклікаюцца ванітаваньне, агульная слабасьць організму і сінюха. Кроў згортваецца, што пры рухомасьці выклікае закупорку крываносных жыл, ад чаго і надыходзіць сьмерць.

У мірным жыцьці хлёр ідзе на прыгатаваньне лякарстваў, фарбаў, і іншых продуктаў, а таксама для барацьбы са шкоднікамі ў сельскай гаспадарцы.

Хлёр дзейнічае атраўляюча і на продукты харчаваньня, на нязмазаныя мэталічныя часткі зброі, выклікаючы ржаўчыну.

*Фосгэн*—газ у восем разоў ядавіцей хлёру. У тры з пал. разы цяжэй паветра. Пахне, як прыпрэўшае сена, прыгніўшы пень. Вырабляюцца з хлёру вокісі вугляроду. Пры нормальнай тэмпэратуры—бясколерны газ.

Дзейнасьць фосгэн на організм аказвае не адразу, а праз 10-11 гадзін пасьля атруты. Хутка выклікае ацёк лёгкіх, паслабляецца сардэчная дзейнасьць, настае параліч сэрца. Усякая работа і рухомасьць пры атраўленьні забараняецца. Нават і ў малой концэнтрацыі фосгэн выводзіць з строю. У часы мінулых войн—займаў першакляснае месца.

У мірным жыцьці ўжываецца ў прамысловасьці.

*Дзіфосгэн*—газ, па ядавітасьці роўны фосгэну. Вырабляецца з фосгэну і мецілавага сьпірытусу.

*Хлёр-пікрын*—газ па ядавітасьці роўны фосгэну. Выклікае сьлёзацячэньне, ірвоту і ўдушша. Па надворнаму выгляду бясколерная, масьляністая жыжка, цяжэй паветра.

Пры самай малой концэнтрацыі выклікае сьлёзацёк.



Крым. Інстытут сухотнікаў.

**Ядавітыя**

*Вокісь вугляроду*—(чадны газ) лягчэй паветра, колеру і паху ня мае. Пры дыханьні пападае ў лёгкія, атручвае іх сьцежкі і праз іх—кроў. Ад нехваткі кісьлароду ў організьме хутка наступае сьмерць, і пры меншай концэнтрацыі, атручвае праз 40—50 хвілін. Атручваньне хутчэй надыходзіць у часе работы.

У мірным жыцьці, зьмешаны з вадародам, ідзе для асьвятленьня і апалу.

*Сінільная кіслата*—газ бяз колеру, лягчэй паветра, з пахам горкага мігдалу. Зьмешаны з вадою, пахне душанымі клапамі.

Атручвае праз 2-5 хвілін, пры слабой концэнтрацыі амаль што не атручвае.

**Сьлёзатачывыя**

*Лакрыматоры*—характэрны тым, што нязначная іх колькасьць у паветры выводзіць з строя, выклікае заплюшчваньне вачэй і сьлёзы. Аднэй часткі

газу на дзесяць мільёнаў часьцей паветра досыць, каб чалавек страціў здольнасьць бачыць.

Дзейнасьць сьлёзатачывых газаў надта вялікая. У будучай вайне яны будуць ужывацца побач з другімі ядавітымі газамі.

Адносна ядавітасьці гэтыя газы ня надта страшныя: атручаны імі хутка папраўляецца.

Амаль ня ўсе гэтыя газы ў сабе зьмяшчаюць хлёр і бром.

**Струпяныя**

*Ды-хлёр—ды-эціл—сульфід* („іпрыт", „гарчычны газ"). У чыстым выглядзе—бясколерны газ з пахам гарчыцы. Надта стойкі, можа трымацца на рэчах да двух тыдняў, а ў сухое і халоднае надвор'е і болей. У часы марозу можа аставацца да цяпла.

Атручвае вочы, скуру і органы дыханьня. Праходзіць наскрозь адзежы, выклікае струпы на целе.

Харчы, вада таксама атручваюцца гэтым газам.

**Чыхацельныя**

Падставай гэтых А. В. служыць мыш'як, арганічныя праізводныя якога („арсіны") шырока ўжываліся ў часе вайны, бо яны здольны праходзіць нават і праз супроцьгазы, ня маючыя спэцыяльных фільтраў. Выклікаючы чыханьне, застаўляюць байцоў зрываць супроцьгазы (маскі), пасьля чаго байцы падпадаюць пад дзеяньне больш моцных А. В.



Газавая атака.

Да чыхацельных газаў адносяцца: Дыфэнія - хлёр - арсін, Мэцыл-ды-хлёрарсін і Моісіт. Прычым некаторыя з іх, апрача таго, што выклікаюць чыханьне, выклікаюць і струпы на целе. Сюды адносяцца: Мэцыл-ды-хлёр-арсін, Эцыл-ды хлёрарсін і Моісіт.

**Якія сродкі ўжываюцца для аховы ад газаў**

З пачатку ўжываньня А. В., як сродкаў для вайсковых мэт, былі самыя прымітыўныя ад іх сродкі аховы, што выклікала вялікія страты ў арміі. Паступова гэтыя сродкі пачалі ўдасканальвацца і ў сучасны момант зьяўляюцца досыць надзейнай аховай здароў'я, выклікаюцца толькі нязначныя страты ад розных комбінацый А. В. ці ад няўменьня належна карыстацца сродкамі аховы.

Сродкі аховы ад А. В. падзяляюцца на:

а) Сродкі індывідуальнай аховы.
б) Сродкі групавай аховы.
в) Меры і сродкі ачысткі мясцовасьці, памяшканьня, адзежы і іншай маемасьці пасьля хэмічнай атакі.
г) Меры аховы матэрыяльнай часткі харчоў.
д) Сродкі аховы жывёлы.
е) Як перасьцерагчы хэмічную небясьпеку.

**Сродкі індывідуальнай аховы**

Сюды адносяцца супроцьгазы, адзежа і мазь, якія ахоўваюць організм ад доступу газаў.

У нас шырока распаўсюджан супроцьгаз сыстэмы Зелінскага-Керымонта.

Супроцьгаз павінен заўсёды мець пры сабе кожны, умець ім карыстацца, хутка адзяваць, а галоўнае, умець у ім працаваць, для чаго кожны паступова павінен сябе прывучыць.

Супроцьгаз, пры хуткім і ўмелым карыстаньні ім— амаль што самая надзейная індывідуальная ахова бадай што ад усіх газаў без акісьліцеляў.

Да сродкаў індывідуальнай аховы ад струпяных газаў датычыць і мазь, ахоўваючая цела ад доступу газаў. Да гэтага часу лепшай мазьзю зьяўляецца мешаніна—вокісі цынку 40 проц., ільлянога масла 20 проц., ланоліну 20 проц. і сьвінога сала 20 проц. Гэтая мазь досыць добра ахоўвае цела ад газаў, лёгка размазваецца, добра прыліпае, не выклікае раздражэньне скуры і ня сьціраецца вопраткаю.

Адзежа, ахоўваючая ад доступу газаў, вырабляецца з хлапчата-папяровай тканіны, прапушчанай праз ванну ільнянога масла і выкатаная асабістымі качалкамі. Такая адзежа ахоўвае ад газу, яна павінна быць добра сшыта, каб ня было нават і малюсенькіх дзірачак, у якія могбы прайсьці газ; апрача адзежы, трэба мець і рукавіцы.

**Сродкі групавой аховы**

Сродкамі групавой аховы ў пачатку ўжываньня А. В. былі агні, маючы на ўвазе, што нагрэтая паветра і газ падымецца к верху і хутчэй згіне, але на практыцы гэтыя сродкі аказаліся далёка не даючымі належных вынікаў.

Не заўсёды можна мець пад рукамі такі матэрыял, які-б хутка загарэўся, і даваў вялікі жар, гэта адно; падругое, агонь ужо паказвае аб тым, што тут ёсьць войска, што дапамагала супраціўніку павялічваць напад, абстрэл і іншае,—гэта ўсё кажа за тое, што гэткія меры групавой аховы не надзейны, перашкаджаючыя вядзенню баявой чыннасьці.

Самымі надзейнымі для групавой аховы гэта— газавальні, пабудованыя спэцыялістымі сапёрамі, з выкананьнем усіх правіл іх пабудовы.

Неабходна застанавіць увагу на тым, што меры ўжываньня А. В. і меры барацьбы з імі паступова ўдасканальваюцца і, вядома, што ўсе гэтыя газы будуць пераможаны напруджанай работай чалавека,—яны зьвяцца нікчэмнасьцю пры ўдасканаленьні спосабаў аховы.

Дзеля гэтага трэба вывучаць хэмічную справу, вывучаць газы, як з імі змагацца і як карыстацца сродкамі для аховы ад іх.

Дзеля гэтага кожны працоўны павінен быць сябрам авіяхіму, дапамагаць у рабоце гэтай масавай грамадзкай організацыі як сродкамі, так і асабістым удзелам у яе працы.

Газаў пужацца нечага, з газамі трэба вучыцца змагацца.

**М. Дзярэча.**

# Першыя дні Савецкай улады на Беларусі

*(З кнігі т. Кнорына „1917 г. в Белоруссии и на Западном фронте“).*

25-га кастрычніка.

Дзень адчыненьня Другога Ўсерасійскага Зьезду Саветаў Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў.

Орган Менскага Камітэту бальшавікоў „Буравестнік“ выходзіць пад лёзунгам: „Нам трэба скончыць драпежніцкую вайну, прапанаваўшы дэмакратычны мір! Нам трэба адмяніць памешчыцкае права на зямлю і перадаць бяз выкупу ўсю зямлю сялянскім камітэтам. Нам трэба зьнішчыць голад, перамагчы разруху і паставіць рабочы контроль над вытворчасьцю і разьмеркаваньнем. Нам трэба даць усім народам Расіі права вольнага наладжаньня свайго жыцьця. Але дзеля таго, каб ажыцьцёвіць усё гэта, неабходна перш за ўсё вырваць уладу ў карнілаўцаў і перадаць яе Саветам Рабочых, Салдацкіх і Сялянскіх Дэпутатаў. Таму наша першае патрабаваньне: „*Уся ўлада Саветам*“.

Орган Менскага Савету „Рабочы і Салдат“ у прывітаньні зьезду выказвае ўпэўненасьць у тым, што зьезд возьме ўладу ў свае рукі і ажыцьцёвіць гэтае першае і грунтоўнае запатрабаваньне народных мас.

### Улада ў руках Саветаў

Прэзыдыум і бальшавіцкая фракцыя Менскага Савету ўзмацнёна працуюць. Камітэт бальшавікоў у баявой гатоўнасьці. Да поўдню 25-га кастрычніка атрымана сьцісла радыё-паведамленьне № 1 Петраградзкага Ваенна-Рэволюцыйнага Камітэту: „*Петраградзкі гарнізон і пролетарыят нізрынуў урад Керанскага, які паўстаў супроць рэволюцыі і народу. Пераварот, які скінуў Часовы Урад, адбыўся бяскроўна... Народная рэволюцыйная армія павінна не дапушчаць адпраўкі з фронту надзейных вайсковых частак у напрамку на Петраград. Дзейнічаць словам і пераконаньнем, а дзе не дапамагае, пярэчыць адпраўцы бязьлітасным прымяненьнем узброенай сілай*“ і г. д.



Галяндзкая вёска Альсмэр.

Прэзыдыум Менскага Савету, у поўнай згодзе з агульнымі дырэктывамі сходу Саветаў ад 22-га кастрычніка і пастановамі Паўночна-Заходняга і Менскага Камітэтаў Расійскай Соцыял-Дэмократычнай Рабочай Партыі (бальшавікоў) выпушчае свой загад № 1 да насельніцтва г. Менску і ваколіц, у якім кажа: „*У Менску ўлада перашла ў рукі Савету Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў, які зьвярнуўся да ўсіх рэволюцыйных організацый і політычных партый з прапановай адразу распачаць утвэрэньне часовай рэволюцыйнай улады на мясцох. Апавяшчаючы аб тым, што адбылася, Менскі Савет Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў даводзіць да ведама ўсіх грамадзян, што ім прыняты самыя рашучыя меры да аховы рэволюцыйнага парадку і наладжаньня жалезнай дысцыпліны, дзе-б гэта ні было. Установлена рэволюцыйная цэнзура над усімі выходзячымі ў Менску і атрымоўваемымі тут газэтамі дзеля папярэджаньня пашырэньня хвалюючых насельніцтва чутак*“.

### Політычныя зьняволеныя—першыя абаронцы Савецкай улады

Гэта было формальнае апавяшчэньне перавароту, які яшчэ не адбыўся. Да 2-х гадзін па гор. Менску быў разьвешаны загад і да таго-ж часу, па распараджэньні Савету, пачалі выстрайвацца перад будынкам Савету на Петраградзкай вуліцы № 6 вызваленыя з турам і гаўптвахт політычныя зьняволеныя салдаты фронту—бальшавікі. Яны ўжо ў турме, пад кіраўніцтвам прапаршчыка Рамнёва, з'організаваліся ў вайсковую адзінку, падзеленую на роты, узводы і аддзяленьні. Грунтоўнаю дзеля іх задачаю ў гэты момант зьяўлялася атрымаць узброеньне.

Тым часам члены фракцыі Выканаўчага Камітэту пасьпелі ўжо ўзяць з артылерыйскіх складаў неабходную колькасьць аружжа (вінтовак і кулямётаў) і амуніцыі. У хуткім часе аружжа было раздадзена. Старшыня Савету Ландэр, старшыня краёвага камітэту РС-ДРП (бальшавікоў) тав. Мясьнікоў і інш. таварышы тлумачаць вызваленым, якія з гэтага моманту склалі першы рэволюцыйны полк імя Менскага Савету, іхнія задачы па абароне Савету і маладой Савецкай улады.

Такім чынам, Менскі Савет атрымаў верную абарону ад усіх магчымых выпадковасьцяй, ненадзейных частак, ахову ад пагромных элемэнтаў, і гэтым забясьпечыў сабе першы посьпех.

Рэволюцыя была зроблена. І пры тым зроблена пры захаваньні ўсіх дэмократычных прынцыпаў. Пытаньне аб паўстаньні перш за ўсё было абгаворана ў Савеце, пастановай прэзыдыуму ад імя Выканаў-

чага Камітэту быў абвешчаны пераход улады ў рукі Саветаў, і пасьля гэтага былі зроблены крокі да ўзброенага падтрыманьня і ажыцьцяўленьня на справе абвешчанага ладу. Усё гэта рабілася сярод белага дня, на ваччу ўсіх.

Але гэта быў толькі першы крок. За ім павінны былі адбыцца і другія. Неабходна было на самай справе яшчэ ажыцьцявіць уладу Саветаў. Неабходна было заняць найважнейшыя ўрадавыя і грамадзкія ўстановы, штабы, пошту, тэлеграф, чыгункі, наладзіць рэволюцыйны контроль над іх дзейнасьцю і зрабіць гэта, не парушаючы іх правільнай работы. Дзеля гэтай мэты ўвечары 25-га кастрычніка ўсе адказныя комуністыя былі разьмяркованы па ўстановам і вызначаны камісарамі, а ўся варта ў горадзе занята салдатамі першага рэволюцыйнага палку.

Цэнтральным пунктам увагі Савету быў штаб Заходняга фронту, на чале з галоўнакамандуючым генэралам Балуевым і камісарам Ждановым. У першую хвіліну штаб прыняў вызначаных Саветам камісараў і быццам-бы прызнаў Савецкую ўладу. Другая Каўкаская дывізія, вернае аружжа Жданова і Балуева, якая стаяла пад горадам, на другую раніцу прыслала двух афіцэраў з заявай, што яна ў распараджэньні Саветаў. Але ўжо 26-га кастрычніка, па-над вечар, позыцыя генэрала Балуева, а таксама Каўкаскай Казачай дывізіі стала мяняцца. Атрыманыя весткі аб супраціўленьні Керанскага абнадзеілі штаб, і пачаліся спробы выкліку франтовых частак дзеля адпраўкі ў Петраград на дапамогу Керанскаму і Краснову.

Куды цяжэй было справіцца з тэлеграфам і поштаю, якія ўжо ўвечары 25-га кастрычніка, атрымаўшы дырэктывы ад сваіх цэнтраў, пачалі сабатаж. Пастаўленыя Саветам камісары справіліся з гэтым сабатажам, праца ня спынялася, і прымусілі ўсіх служачых заставацца на мясцох.

Гэта была першая значная перамога Савецкай улады на Заходнім фронце.

Менскаму Савету і Краёваму Камітэту РС-ДРП (бальшавікоў) было ясна, што, ня гледзячы на гэтую першую перамогу, пытаньне аб урачыстасьці Савецкай улады вырашаецца ня ў Менску, а ў Петраградзе і ў Маскве, аднак, у выніку барацьбы франтовая ўзброеная сіла можа адыграць значную ролю.

Грунтоўнаю і першаю задачаю маладой Савецкай улады ў Менску было недапушчэньне зьняцьця з фронту частак і адпраўкі іх у сталіцы. Неабходна было затрымаць эшалоны, растлумачыць ім становішча рэчаў і заклікаць іх стаць на Савецкі бок. Гэтая задача выконвалася з вялікім посьпехам.

**Першы рэволюцыйны орган улады на Беларусі**

Дзеля пашырэньня Савецкай улады на ўсю Беларусь і фронт, 26-га кастрычніка ўвечары было пастаноўлена скласьці Ваенна-Рэволюцыйны Камітэт Заходняга Краю, і Бюро Краёвага Камітэту Саветаў 27-га кастрычніка апавясьціла, што Краёвы Камітэт лічыць магчымым уступіць у Рэволюцыйны Камітэт, які ўтвараецца пры Менскім Савеце, на наступнай пляцформе: 1) Рэволюцыйны Камітэт утвараецца дзеля аховы парадку і бясьпечнасьці насельніцтва краю; 2) недапушчэньне пропуску эшалонаў з фронту; 3) недапушчэньне пашырэньня провокацыйных вестак і брахні пра Саветы і рэволюцыйнай дэмократыі, і той барацьбе, якая імі праводзіцца; 4) Рэволюцыйны Камітэт яднае ў сваіх руках усю ўладу, аж да ўтварэньня гэткай у цэнтры і на мясцох і 5) у Рэволюцыйны Камітэт ад Выканаўчага Камітэту Заходняга Краю ўваходзяць два прадстаўнікі, і адразу па ўтварэньні гэтага Рэволюцыйнага Камітэту ў яго ўваходзяць па аднаму прадстаўніку ад кожнага Савету Заходняга Краю.

Старшынёй Рэволюцыйнага Камітэту быў вызначаны т. А. Мясьнікоў, у скад яго членамі ўвайшлі т. т. В. Фрэйман, М. Калмановіч, К. Ландэр, В. Кнорын і інш.

Гэткім чынам быў утвораны рэволюцыйны орган улады дзеля ўсяго краю і фронту, які павінен быў узмацніць і разгарнуць усю гэтую ўладу, які павінен быў бараніць новую Савецкую ўладу ад паўстаўшых генэралаў буржуазіі і згодніцкіх соцыялістых.

* * *

Спавіваліся водарам дзіўным сады.
Ціха сеяўся сон над палеткамі,
а паветра паіў смолых водараў дым
і цадзіўся струменямі рэдкімі.

Чорнакосая ноч распляла валасы.
Палі пасмы на грудзі блакітаў—
І аселі сыпучыя кроплі расы
на шапотны аір і ракіты.

Я сустрэўся з дзяўчынай чароўнай такой
сярод бору глухога дрымотнага.
Месяц плыў задуменна над сіняй ракой,
месяц далі паіў—сінь вільготную.

І ня знаю цяпер, што казала тады,
што казала мая смуглатварая,
бо у сэрцы пявучыя струны-лады
ўсё аб шчасьці сьпявалі і марылі.

Толькі словы былі, быццам кветачны пах,
што лунае у зморшчыных ночы...
На адхонай гары ціхі гай засыпаў,
вецер сны залатыя асочыць.

Цераз белыя кросны туманаў прастор
апавіўся срабрыстаю песьняю.
Страпянулася раніца ў сонных лістох,
яе гукі чароўныя песьцілі.

Не шапталі бары, не сьпяваў салавей,
ня йшла песьня туманамі волкімі,
гэта ранак находзіў—уставаў сонцавей,
сонцавей з пацалункамі палкімі.

Уставаў сонцавей. Абуджаў усё ад сну;
бель-бярозы расою заплакалі...
Мы спаткалі з табой дарагую вясну,
маладую вясну мы засваталі.

Верасень, 1923 г.

**Максім Лужанін.**

# Моладзь аб „Маладым Аратым“

Дагэтуль я быў бесклапотным чытачом „Маладога Аратага“. Але як уведаў, што ён у кепскім становішчы (затым, што мала падпішчыкаў)—я зусім „перарадзіўся“. Я ўпэнен, што і ўсе чытачы „М. А.“ палічылі-б за найвялікшую ўтрату ў нашым культурным жыцьці, каб „М. А.“ раптам памёр. А гэта можа здарыцца, калі мы ня возьмемся за пашырэньне яго.

Трэба сказаць, што нашы вясковыя хлопцы часта зусім незнаёмы з пэрыодычным друкам, а затым досыць ім толькі расказаць, як падпісацца на



Матароўцы—за „Маладога Аратага“.

тую ці іншую часопісь, ці газэту—як, глядзіш, яны ўжо выпісваюць і заахвочваюць падпіскаю і другіх сваіх таварышоў.

Я чытаў з хлопцамі „М. А.“, а потым яны і кажуць: „Цікавая часопісь, адкуль ты яе бярэш?“

І вельмі зьдзівіліся, калі я сказаў, што „М. А.“ выходзіць 2 разы ў месяц і каштуе толькі 15 капеек, і пісьманосец будзе прыносіць яго ў хату.

Цяпер у нашай вёсцы „М. А.“ выпісваюць 5 хлапцоў кожны месяц.

Кніжак яшчэ ў нашай вёсцы мала, і загэтым „М. А.“ ў вялікім хаду і пашане. Едуць хлопцы конный пасьвіць, бяруць яго з сабою. Па атрыманьні „Малады Араты“ чытаецца нарасхоп. Я ведаю, што тыраж часопісі „М. А.“ малы і патрэбна яго, як мага павялічыць, а павялічыцца тыраж, памойму, пры тых умовах, калі актывістыя першыя возьмуцца выпісваць яго і будуць агітаваць за пашырэньне „М. А.“.

Я-б раіў рэдакцыі ўстрайваць конкурсы па пашырэньню часопісі, высылаць розныя дадаткі да „М. А.“, бо імі лепш заахвоціць хлапцоў ці дзяўчат да падпіскі.

А то бывае і так, як гэта можна бачыць у *Вярхмянскай ячэйцы*, або *ячэйкі саўхозу „Труд“*, якія ня выпісваюць зусім „Маладога Аратага“. У той час, як сакратары ячэек ведаюць, што „М. А.“ маецца на белым сьвеце, дзеля гэтага я і заклікаю актывістых вышэйпамянёных ячэек выпісаць спачатку самім, а пасьля ўзяцца за распаўсюджваньне „М. А.“ ў сваёй ячэйцы і сярод беспартыйнай моладзі.

Досыць аднаго актыўнага хлапца, каб „М. А.“ пранік у масы моладзі. Вось прыклад: *Смалявіцкая сель-Савецкая ячэйка* ня выпісвала „М. А.“; прыехаў адзін студэнт БДУ і ўзяўся за пашырэньне яго. Цяпер часопісь „М. А.“ выпісваюць у ячэйцы каля 12-ці чалавек.

Дрэнна таксама тое, што нават райком ня выпісвае і ня імкнецца пашыраць „М. А.“

Я сам выпісваю і пашыраю „М. А.“ і выклікаю наступных т. т.: *Шостака* (сакратар РК КСМ), *Куніцкага*, *Шарамэта*, *Мініна* (райком праца. зям. лес.); *Паўлюка Лютаровіча* (сакр. Варатоўскай яч.), *і ўсіх актывістых ячэек мястэчка Смалявічы.*

*Грамадзкіх працоўнікоў вёскі Заказінец: М. Пятроўскага* (кіраўнік с.-г. гуртку); *Юзіка Копця*, *Мік. Салодкага*, *А. Караневіча*. Комсамольцаў: *Алёшку Чыстага*, *Ал. Копця*, *Л. Салодкага* і ўсю моладзь вёскі Заказінец.

Усе за пашырэньне „Маладога Аратага“!..

**Янка Пятроўскі.**

## Паштовая скрынка.

**С. Кастрычніку.**—Допісы „Сялянства апераджае моладзь“, „Ячэйка МОПР'у, прасьнiця“, „Праца, як яна ёсьць“—ня пойдуць. Мала апісаць усебаковую працу ячэйкі, схапіўшы толькі вярхушку яе, трэба ўдумчыва адносіцца да таго, што ты пішаш. Трэба больш шырока глядзець на справу і апісваемыя табою факты; а то ты пішаш: „моладзь ня выпісвае газэт, комсамольцы не бяруцца за пашырэньне іх“, і ты выводзіш, што дрэнна стаіць грамадзкая праца ячэйкі. Патвойму выходзіць, каб „комсамольцы пашыралі газэты“, тады-б грамадзкая праца ячэйкі была-б здавальняючай. Гэтакі погляд і апісаньне працы ячэйкі—надта вузкі. Больш таго: у тваіх дописах заўважваецца, што ты толькі падхопліваеш недахопы працы, *а як гэтыя недахопы зьнішчыць*, ты аб гэтым і не заікаешся.

Мы павінны зьнішчаць недахопы, павінны іх высьвятляць у друку, але павінны ў той-жа час больш шырока глядзець на апісваемы факт і прымаць пад увагу тыя ўмовы працы, з якіх выцякае недахоп.

Раім табе больш уважліва чытаць допісы з аддзелу „Наша Жыцьцё“ і прыглядацца, як трэба пісаць.

Высьвятляй працу комсамольцаў на сельскай гаспадарцы, іх працу ў грамадзкіх організацыях: сельсавеце, коопэрацыі, камітэце ўзаемадапамогі, у пажарнай дружыне і г. д.

Чакаем ад цябе допісаў на закранутыя вышэй тэмы. Таксама ўскладаем надзею ў справе пашырэньня сярод тваіх сяброў часопісі „Малады Араты“.

**Цітаву.**—Допіс: „Трэба комсамольцам зьвярнуць увагу на грамадзянскую працу“—нягрунтоўна напісан. Ня пойдзе.

Рэдактары: Іл. Барашка. Я. Галодка.

Менск, 1-я дзярж. друк. Зак. № 4073. Галоўлітбел № 21050.

## Што можа даць чалавеку амаладжэньне

### Сутнасьць амаладжэньня

Бязумоўна, што маладосьць ня можа быць зьвернута старому чалавеку. Але зварот бадзёрасьці вельмі старому організму з дапамогаю нескладаных опэрацый—факт нашых дзён.

Сутнасьць амаладжэньня складаецца ў аднаўленьні дзейнасьці палавых залоз організму.

Навука за апошні час ў выстарчаючай меры вывучыла ўсе залозы жывёліны і бяз цяжкасьці дае магчымасьць тварыць над гэтым організмам патрэбныя зьмены. Тое самае і з палавымі залозамі. Сакрэт палавых залоз выходзіць да ўтварэньня і падтрыманьня ў організьме двух пачаткаў:

1) палавога ўзьнікнавеньня зародышаў (палавыя продукты) і

2) продуктаў, якія падтрымоўваюць у жывёліны (ці ў чалавека) бадзёрасьць, энэргію, якія ставяць умовы асаблівасьцям полу (мужчынскі голас, вусы і бараду ў мужчыны і г. д.).

У старасьці організм, як і любое цела, напрыклад, звычайная машына, зношваецца, і такія органы, як палавыя залозы, у 40—50 год адмаўляюцца выпрацоўваць продукты з такою сілаю, як яны выпрацоўвалі ў моладасьці. Усім вядома, што кабеты бываюць нявздольны раджаць дзяцей пасьля 40 год.

Адначасова гэтыя залозы (як гэта выявілася) перастаюць даваць цэлу энэргію, бадзёрасьць і г. д.

Для таго, каб дапамагчы бядзе, ёсьць, відавочна, два выхады: разгрузіць палавую залозу ад церазмернай працы, ці часткова замяніць палавыя залозы новымі, з маладога організму другое жывёліны.

### Як навука падышла да разьвязаньня гэтых пытаньняў

Вядомы расійскі вучоны І. І. Мечнікаў 10 год таму назад ня ведаў тых фактаў амаладжэння, якія цяпер кожнаму вядомы. Амаладжэньне стала злобай дню ў апошнія 5—8 год—у часе вайны.

Характэрна тое, што досьледы з амаладжэньнем, незалежна адзін ад аднаго, узьнiклі адначасова ў розных кутках зямлі: у Штэйнаха (у Аўстраліі) і Воранава (расійскага вучонага ў Парыжы), Заводзкага ў Цьверы.

### Амаладжэньне жывёлін

На гэтым фронце пачалася праца. Бралі для досьледаў: пацукоў, марскіх сьвінак, бараноў, авечак, сабак і г. д. Гэтым жывёлінам рабілі ў большай частцы перасадку палавых залоз ад маладых—старым. Вынікам быў бліскучы посьпех: самкі пацукоў, якія ўжо лыселі і друзьлелі на 30-м месяцы жыцьця, па перасадцы станавіліся зноў здольнымі раджаць дзяцей, атрымоўвалі зноў патрачаную бадзёрасьць, апэтыт, энэргію і г.д і жылі яшчэ каля 15 месяцаў.

Такім чынам, жыцьцё гэтай жывёліны ўдалося працягнуць на 50%. Тое самае і з іншымі. Перасадка праводзілася, аднак, няпоўнасьцю. Досыць часткі маладога яйка мужчынскага семя ўсадзіць у яйка старога організму, як організм „памаладзеў“.

### Амаладжэньне над чалавекам

Тут падыйшлі больш асьцярожна. Тут першыя досьледы пачаліся з разгрузкі палавых залоз старога організму ад неабходнасьці выпрацоўваць палавыя продукты.

Для гэтага ладзіліся адводы палавых продуктаў. Гэтым шляхам значна палягчалася і разгружалася дзейнасьць залоз. Уся сіла ішла на выпрацоўку другіх продуктаў, якія абумоўлівалі бадзёрасьць, энэргію і г. д.

Амалоджаныя гэткім чынам старыкі надоўга атрымоўвалі патрачаны апэтыт, палавую хэньць, энэргію і г. д.

Але хутка вучоныя адважыліся і на перасадку залоз ад другіх жывёлін.

Тут, цяжка было з тым, дзе дастаць сьвежыя, маладыя палавыя залозы. Бо ніводзін малады чалавек ня згодзіцца на такую ахвяру, каб уступіць частку сваіх залоз.

Выхад быў знойдзен: папершае, вайна дала магчымасьць карыстацца цяжкімі вынікамі раненьняў людзей на вайне, па другое, і самае пэўнае, аказалася магчымым перасаджваць палавыя залозы ад малпы чалавеку, як ад самай бкізкай да чалавека жывёліны.

Тут атрымаўся значны посьпех.

### Што можна чакаць ад амаладжэньня

Зношаны, стары організм, вядома, не перародзіцца ад асьвяжэньня яго новымі палавымі залозамі. Калі ў старыка друзлае, пратраўленае алкаголем сэрца, дык усё роўна яно хутка перастане працаваць. Калі старык даўдо хварэе пранцамі, дык, вядома, ён не расправіць свайго сьпіннога хрыбта.

У амаладжэньні мы можам чакаць толькі пабуджэньня да жыцьцядзейнасьці, аднаўленьня патрачанай цікавасьці да жыцьця, павышэньня кармленьня і інш.

У сувязі з гэтым бязумоўна, што можна працягнуць жыцьцё старыка, падтрымоўваючы і ўпітваючы друзлыя органы.

Проф. Мечнікаў ставіў сваёй задачай барацьбу з несваячасовай старасьцю чалавека. Ён марыў: пры лепшым рэжыме жыцьця (нормальнае жыцьцё) у стогодні узросьце чалавек можа быць маладым чалавекам.

Але Мечнікаў ня ведаў спосабаў амаладжэньня, ён не дажыў да нашых дзён.

Пры, дапамозе абмаладжэньня, бязумоўна, можна было-б мару Мечнікава аб гранічным узросьце чалавека яшчэ больш працягнуць: 125—150 год—гэта павінен быць, па меншай меры, малады ўзрост амалоджанага чалавека, які жыў нормальна.

## ЗЬМЕСТ.

ЦАНА АСОБНАГА №—10 КАП.

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА ДА КАНЦА 1926 ГОДУ

НА НАСТУПНЫЯ ПЭРЫЯДЫЧНЫЯ ВЫДАНЬНІ

## ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

### „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

ГАЗЭТА

**Орган ЦК ЛКСМБ і Менскага Акруговага Камітэту ЛКСМБ.**

Выходзіць тры разы на тыдзень. Дае кіраўнічы матэрыял па пытаньнях комсамолу, асьвятляе жыцьцё гораду і вёскі, зьмяшчае фэльетоны з комсамольскага жыцьця, апошнія навіны са ўсяго сьвету, багата ілюструецца.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

На 1 м-ц—25 кап. На 6 мес.—1 р. 50 к. На 3 м-цы—75 к. На 1 год—3 р. — к.

**Гарантуецца акуратная дасылка ва ўсе гарады і вёскі.**

### „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“

**Дзіцячая часопісь ЦК ЛКСМБ і Наркамасьветы БССР.**

Выдаецца адзін раз у м-ц, багата ілюстравана. „Б П“ зьмяшчае цэлы шэраг матэрыялаў, якія цікавяць дзяцей і памагаюць ім у працы (піонэр. організац.).

**У часопісі прымаюць удзел усе лепшыя літаратурныя сілы Бел.**

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

На 1 м-ц—20 к. На 6 мес.—1 р. 20 к. На 3 м-цы—60 кап. На 1 год—2 руб. 40 кап.

**Часопісь, апрача гэтага, прадаецца ва ўсіх кнігарнях і кіосках Дзярж. Выд. Бел.**

**ЦІ ПАДПІСАЛІСЯ**

**на ілюстраваную часопісь „сялянскай моладзі“**

### „МАЛАДЫ АРАТЫ“

**самую пашыраную і самую танную беларускую двухтыднёвую часопісь.**

„МАЛАДЫ АРАТЫ“ на сваіх старонках праводзіць гутаркі аб політыцы, мае сталы літаратурны аддзел, сельска-гаспадарчы, высьвятляе жыцьцё вёскі, друкуючы допісы вясковай моладзі, а так-ама жыцьцё і працу гарадзкой моладзі, зьмяшчае п'есы, песьні, частушкі, загадкі, шарады і гульні, аддзел гумару, дае парады моладзі — што чытаць, мае навукова-тэхнічны аддзел з практычным сельска-гаспадарчым ухілам і інш.

У часопісі супрацоўнічаюць звыш 200 сталых корэспондэнтаў, а таксама беларускія політычныя і літаратурн. дзеячы.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

На 1 м-ц—15 к. На 3 м-цы—45 к. ‖ На 6 м-цаў—90 к. На 1 год—1 р. 80 к.

Згодна умовы з Дзяржаўным Выдавецтвам Беларусі і з экспэдыцыяй канторы „Звезды“ гарантуецца акуратны выхад і дасылка часопісі ва ўсе гарады і вёскі. Апрача падпіскі часопісь патрабуйце ў кіосках і газэтчыкаў.

**Кожны вясковы комсамолец павінен абавязкова чытаць „Малады Араты“**

### „ЮНГЕР АРБЭЙТЭР“

**Штодыднёвая газэта яўрэйскай моладзі гор. і мястэчка.**

**Орган Яўрэйскай Сэкцыі ЦК ЛКСМБ**

на сваіх старонках асьвятляе жыцьцё яўрэйскай моладзі гораду і мястэчка, налічвае вялікі лік уласных дапісчыкаў, зьмяшчае на сваіх старонках кіраўнічы матэрыял.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

| | |
|---|---|
| На 1 м-ц —15 кап. | На 6 м-цаў—90 кап. |
| На 3 м-цы—45 кап. | На 1 год—1 р. 80 кап. |

**Яўрэйская моладзь павінна чытаць „ЮНГЕР АРБЭЙТЭР“.**

### „ЮНГЕР ПІОНЭР“

**піонэрская газэта на яўрэйскай мове**

**Выходзіць чатыры разы на месяц.**

Програма газэты: кіраўнічыя артыкулы па піонэрскому пытаньню, навіны са ўсяго сьвету, літаратурны матэрыял, гульні, загадкі, рэбусы, асьвятленьне жыцьця яўрэйск. школ і піонэрскіх атрадаў.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

| | |
|---|---|
| На 1 м-ц —10 кап. | На 6 м-цаў—60 кап. |
| На 3 м-цы—30 кап. | На 1 год 1 р. 20 кап. |

ПАДПІСКА НА ВЫДАНЬНІ ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“ ПРЫМАЕЦЦА ПРАЗ ЯЧЭЙКАВЫХ УПОЎНАВАЖАНЫХ: У ГАЛОЎНАЙ КАНТОРЫ „ЗВЕЗДЫ“ (МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 63). УВА ЎСІХ ПАШТОВЫХ АДДЗЯЛЕНЬНЯХ, УВА ЎСІХ АДДЗЯЛЕНЬНЯХ І АГЕНЦТВАХ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ВЫДАВЕЦТВА.

**Адрэс рэдакцый усіх памянёных выданьняў: Менск, Комсамольская 25, тэл. 903.**

